9 красавіка 2021 | № 14 (722)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Дзе запісацца ў замежныя агенты?
стар. 9

Новы час
novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144
КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ



# Калі ўлады не робяць высноваў з памылак — фінал заўсёды адзін

Пётр КУЗНЯЦОЎ

**Унутры рэжыму выдатна ўсведамляюць, што «народная любоў» не вяртаецца, і робяць стаўку на сілавое падаўленне без пэўнага, бачнага і пралічанага канца.**

Гэта нават не рызыкоўная стратэгія, гэта — асуджаная на паразу стратэгія «дзень прастаяць ды ноч пратрымацца», а па сутнасці — толькі зацягванне часу. Развіццё гэтага сцэнара выключае любую міжнародную нармалізацыю, а такім чынам, і доступ да рэсурсаў, акрамя расійскіх, з якімі таксама зусім не ўсё проста. Сваіх жа рэсурсаў беларуская эканоміка генераваць пакуль (за 26 гадоў) у дастатковым аб'ёме не навучылася.

Спалучэнне крызісу легітымнасці ўлады, перманентнага палітычнага крызісу, немінучага эканамічнага крызісу, напружанасці на ўсходзе і поўнай ізаляцыі на ўсіх астатніх баках перыметра — жахлівы кактэйль, і ўсё выглядае такім чынам, што сёння рэжым утрымліваецца толькі дзякуючы надзвычайнай унутранай мабілізацыі. Аднак праблема ў тым, што ў такім стане доўга не можа функцыянаваць ні адна сістэма ў прыродзе.

Адсутнасць масавага выхаду на Дзень Волі зусім не варта лічыць нейкім негатыўным момантам — гэта папросту аб'ектыўная рэальнасць.

А яшчэ аб'ектыўная рэальнасць такая, што ў сітуацыі, якая склалася, барацьба на знос паміж уладай і грамадствам прыняла парадаксальны характар. Парадаксальнасць — у тым, што грамадства вядзе яе хоць і з велізарнымі выдаткамі, але з меншымі высілкамі, чым улада. Грамадства працягвае падкошваць рэжым, нават уступаючы ў стадыю дэмабілізацыі, як цяпер. Народ — сам па сабе рэсурс, улада ж — толькі надбудова. Уявіце сітуацыю, у якой чалавек утрымлівае вышыню — ён цар гары, але толькі дзякуючы наяўнасці гары. А тут раптам ён з гэтай гары зваліўся, гара проста стаіць, а гэты небарака спрабуе ёй помсціць, адкалупваючы штык-нажом кавалачкі глебы. Пытанне ў тым, што здарыцца раней — гара скончыцца, штык-нож зламаецца або чалавек памрэ — здаецца, у любым выпадку вырашыцца на карысць гары.

Гістарычная логіка такая, што новы пратэсны выбух усё адно здарыцца. Як бы яны гару сваім штыком ні калупалі — яна ўсё роўна на іх абрынецца. І чым больш інтэнсіўна калупаюць, тым хутчэйшы і цяжэйшы будзе гэты абвал — тут без варыянтаў. Калі ўлады не робяць высноваў з памылак, фінал заўсёды адзін. Памылкай з іх боку ў 2020 была не залішняя мяккасць — гэтага яны якраз сабе не дазволілі, а зусім наадварот — моцнае і відавочнае перагінанне палкі.

Замест таго, каб зрабіць высновы і запусціць больш тонкія працэсы, улады вырашылі ў тым, што б там ні стала даказаць, што менавіта іх першапачатковае бачанне — правільнае, і ўзмацняць жорсткасць трэба ўсё больш і больш.

Вельмі забаўная логіка: у надзеі дамагчыся поспеху ўзяць сцэнар, які ўжо праваліўся і паказаў сваю неэфектыўнасць, і шматкроць узмацніць у ім менавіта самыя неэфектыўныя кропкі. Вельмі забаўная логіка.

ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

# «Кожны дзень мы думаем пра цябе»

**Вікторыя Гранкоўская — былая студэнтка БНТУ, якую адлічылі пасля восеньскіх акцый пратэсту ў Беларусі. Яна вучылася на чацвёртым курсе архітэктурнага факультэта.**

Дзяўчына была затрымана 12 лістапада ў межах крымінальнай справы па ч. 1 арт. 342 КК РБ (Арганізацыя альбо ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак).

Вікторыі было прад'яўлена абвінавачанне. Спачатку яе змясцілі пад варту ў СІЗА КДБ, затым перавялі ў СІЗА-1.

Сябры і аднагрупнікі Вікі ўвесь час пішуць ёй лісты, але відавочна, што большасць з іх не даходзіць, таму яны вырашылі напісаць праз НЧ.

— Дарагая Віка. Ты — гонар усяго БНТУ. Мы ўсе табой захапляемся. Тваёй асобай, тваёй мужнасцю і адказнасцю за ўсіх нас. Праз кароткі час усё гэта скончыцца — і мы абавязкова сустрэнемся. Заставайся такім жа сонейкам, як і была заўсёды.

Люблю, абдымаю, твая палявая кветка.

— Віка, мы ведаем, што цябе не зламіць! Я ганаруся тваім станам, падтрымліваю цябе. Ты заўсёды ў думках, ведай гэта, мы побач.

**Кацця:)**

— Прывітанне, Віка! Я веру ў цябе і тваю стойкасць! Ведаю, што тваю веру не разбіць, не спыніць, не стрымаць! А ўсе мы, твае сябры, падтрымліваем яе!

**К.**

— Прывітанне, Віка! Мы ўсе думаем толькі пра тое, каб хутчэй усё скончылася і ўбачыцца ўсім разам. Мы не маем права спыніцца, таму і не спыняемся. Хутка ўсё будзе добра, галоўнае — верыць у гэта, ну а нам застаецца рабіць усё для гэтага :) Не сумуй, ты вельмі моцная дзяўчынка! Ты — наш гонар і герой! 2021 год — Год Быка, ну а для беларусаў — гэта Год Зубра. А зубр моцны! :) Таму ўсё будзе добра!

**Саша :)**

— Віка, кожны дзень мы думаем пра цябе — і гэта дае нам сілы рухацца далей! Безумоўна, твае лісты натхняюць нас не здавацца і рабіць нашую справу. Моцна абдымаем цябе і наближаем дзень нашай сустрэчы!

**Fedor**

— Дарагая Віка, ты такая моцная і смелая! Мы ўсе кожны дзень пра цябе думаем і чакаем з нецярпеннем з табой сустрэчы :) Ты змагалася за нас, а мы змагаемся за цябе, адзін за ўсіх і ўсе за аднаго!

P. S. Гэта **Ганна**, мы з табой амаль не знаёмыя, але вельмі чакаю, каб хутчэй пабачыцца. Ты — мой кумір :)

# Родныя амаль не атрымліваюць лісты

**Журналіст-расследвальнік, аўтар «Новага Часу» Дзяніс Івашын амаль месяц сядзіць у СІЗА Гродна. Ён расследаваў, як былыя ўкраінскія беркутаўцы ўладкоўваюцца на працу ў беларускі АМАП.**

Як паведамілі родныя Дзяніса, ён спачатку сядзеў адзін у камеры. Прыкладна 2 тыдні таму яго перавялі ў камеру з яшчэ двума вязнямі. Наколькі вядома сваякам, сукамернікі — не «палітычныя».

Па здароўі ён адчувае сябе нармальна. На ўмовы цяпер не скардзіцца. Раней у яго была халодная камера, дзе не зачынялася фортка.

Перадачы Івашыну перадаюць. Акрамя звычайных побытавых рэчаў, ён прасіў прысмакі на Вялікдзень і сала.

Вядома, што лісты да палітвязня даходзяць, і ад сваякоў, і ад сяброў. Але ад яго на волю пакуль нічога не прыйшло.

Следчыя дзеянні з Івашыным вялі толькі на самым пачатку. Ён адмовіўся даваць паказанні.

Нагадаем, Дзяніса Івашына затрымалі супрацоўнікі КДБ 12 сакавіка, калі ён выйшаў у аптэку па лекі для бабулі. Яму прад'явілі абвінавачанне па 365 крымінальным артыкуле — «Умяшанне ў дзейнасць супрацоўнікаў органаў унутраных спраў».

У сувязі з гэтым прадстаўнікі беларускай праваабарончай супольнасці адзначаюць наступнае:

«Дзейнасць Дзяніса Івашына ў якасці журналіста пры правядзенні журналісцкіх расследаванняў і падрыхтоўцы серыі публікацый аб праходжанні службы былых супрацоўнікаў спецыяльнага падраздзялення ўкраінскай міліцыі "Беркут" у складзе атрадаў міліцыі асаблівага прызначэння Беларусі (АМАП) пераследавала легітымную мэту давядзення да ведама грамадства інфармацыі, якая прадстаўляе сацыяльную значнасць.

Інфармацыя для правядзення журналісцкага расследавання бралася з адкрытых крыніц.

У адпаведнасці з п. 30 Заўваг агульнага парадку Камітэта ААН па правах чалавека №34 "Артыкул 19: Свабода меркаванняў і іх выказвання", дзяржавам-удзельніцам неабходна вельмі старанна падыходзіць да забеспячэння строгага выканання патрабаванняў п. 3 арт. 19 МПГПП у працэсе распрацоўкі і прымянення законаў, якія тычацца нацыянальнай бяспекі, службовай таямніцы, барацьбы з падрыўной дзейнасцю ці іншых сфер. Напрыклад, парушэнне п. 3 уяўляе сабой спасылкі на такія законы, з тым каб утрымаць або ўтаіць ад шырокай грамадскасці інфармацыю, якая прадстаўляе законны грамадскі інтарэс і не пагражае нацыянальнай бяспецы, а таксама, каб пераследаваць журналістаў, даследчыкаў або іншых асоб за распаўсюд такой інфармацыі.

Такім чынам, гэтыя дзеянні з'яўляюцца негвалтоўнай рэалізацыяй свабоды пошуку і распаўсюду інфармацыі, трапляюць пад абарону арт. 19 МПГПП і іх нельга кваліфікаваць як "уздзеянне на супрацоўніка органаў унутраных спраў з мэтай змены характару яго законнай дзейнасці".

У гэтым кантэксце лічым утрыманне пад вартай Дзяніса Івашына палітычна матываваным, а яго самога — палітычным зняволеным, у адпаведнасці з п. 3.1(а) Кіраўніцтва па вызначэнні паняцця "Палітычны зняволены"».

У сувязі з гэтым прадстаўнікі праваабарончых арганізацый Беларусі патрабуюць неадкладнага і безумоўнага вызвалення з-пад варты Дзяніса Івашына і спынення крымінальнага пераследу ў дачыненні да яго. А таксама неадкладнага вызвалення ўсіх палітвязняў і спынення палітычных рэпрэсій у краіне.

Таксама нагадваем, што на дадзены момант акрамя Івашына ў няволі застаюцца журналісты: Кацярына Андрэева, Дар'я Чульцова, Кацярына Барысевіч, Юлія Слуцкая, Ала Шарко, Сяргей Альшэўскі, Пётр Слуцкі, Ксенія Луцкіна, Андрэй Аляксандраў, Андрэй Пачобут, Сяргей Гардзіевіч (хатні арышт).

***P.S.: Калі нумар ужо быў звярстаны, стала вядома, што жонка Дзяніса Вольга атрымала ад яго адзін ліст за 17 сакавіка.***

# «Складаней за ўсё прымаць беззаконне»

Аксана КОЛБ

**Яшчэ год таму жыццё гэтай жанчыны мала чым адрознівалася ад жыцця тысяч іншых беларусак. Дом, муж, дзеці. Не было ні болю, ні адчаю, ні страху за жыцці родных людзей, ні суму па радзіме. Але аглядаючыся назад, яна ні пра што не шкадуе і верыць, што ўсё абавязкова будзе добра.**

Наша размова са Святланай Ціханоўскай на першы погляд не пра палітыку, а пра жыццё, пра каханне і пачуцці. І ўсё ж пра палітыку, бо, на жаль, палітыка стала ўвайшла ў жыццё кожнага сумленнага беларуса.

Ужо восем месяцаў мінула з таго дня, як Святлану выштурхнулі з Беларусі. Восем месяцаў у вымушанай эміграцыі, беспарапыннай працы для краіны, перажыванняў за мужа, які застаецца за кратамі, і яшчэ шмат чаго, што складана вытрымаць нават падрыхтаванаму чалавеку.

— Я вельмі сумую па сваім доме. Дзеці сумуюць, хочуць дахаты. Сумую па сябрах, родных. Хочацца прытуліцца да мужа, адчуць яго спакой і моц. Мне вельмі не хапае таго адчування спакою, якое было калісьці… — Святлана спрабуе расказаць, чаго ёй больш за ўсё не хапае на чужыне, а я спрабую ўявіць, як гэта, калі цябе выкідаюць з краіны. Краіны, дзе прайшло ўсё тваё жыццё, а ты не можаш вярнуцца, бо адразу трапіш за краты толькі за тое, што хацеў годнага жыцця.

— Мне так хочацца нарэшце расслабіцца, але я разумею, што не маю на гэта права, — кажа Святлана. — Бываюць моманты, калі вельмі цяжка, і хочацца ўсё кінуць, але я адразу ўзгадваю тых, хто сёння ў Беларусі, хто за кратамі. Я ўяўляю, як ім цяжка, але яны не здаюцца. Гэта проста за шкірку цябе выцягвае — і ты пачынаеш працаваць далей. Рабіць усё, каб гэтыя людзі маглі хутчэй выйсці на волю. Каб я і ўсе тыя, хто вымушаны быў з'ехаць з Беларусі, маглі вярнуцца на радзіму. Сэрца баліць за ўсіх тых, хто пацярпеў ад рэжыму. Але разам з тым я неймаверна ганаруся беларусамі. У 2020-м адбыўся такі аграмадны зрух у свядомасці, у адчуванні ўласнай годнасці. Таму нягледзячы на ўсе рэпрэсіі, людзі адчуваюць, што гэты шлях мы павінны былі прайсці, каб нарэшце прыйсці да новай, лепшай Беларусі. І гэта тое, што дае сілы працаваць далей.

Я магу вытрываць шмат што. І тое, што мяне пазбавілі роднага дому, магчымасці бачыцца з мужам, а маіх дзяцей — бацькі. Што я не магу сустракацца з сябрамі і ў любы момант прытуліцца да мамы. Што мяне называюць тэрарысткай і яшчэ шмат кім. Але ведаеце, што складаней за ўсё прыняць? Складаней за ўсё прыняць тое беззаконне, якое сёння адбываецца ў Беларусі. Асабліва баліць, калі ты не можаш з гэтым пакуль нічога зрабіць. І, магчыма, менавіта гэта дае мне сілы кожны дзень па кроплі рабіць сваю справу. Крок за крокам набліжаць той момант, калі нарэшце ўсе нявінна закратаваныя змогуць абняць сваіх родных.

Мне здаецца, гэта будзе проста нейкі святочны тыдзень! Спачатку мы ўсе разам сустрэнем зняволеных. Пасля людзі выйдуць на вуліцы, каб разам адсвяткаваць наша вызваленне. Будуць абдымацца, дарыць адзін аднаму кветкі. Будуць збірацца ў сваіх дварах… Такое вось усеагульнае свята.

А я нарэшце змагу абняць каханага, дзеці кінуцца яму на шыю… Нядаўна малодшая дачка ў мяне спыталася: «Мама, а чаму Лукашэнка пасадзіў нашага тату?» Я троху разгубілася, бо мы не казалі ёй, што здарылася, расказвалі, што з-за каронавіруса тата не можа да нас прыехаць. Але, аказваецца, ёй пра ўсё паведаміў старэйшы сын. І гэта проста рэжа сэрца, адбіваецца такім болем… Тое, што нашы дзеці вымушаны праз гэта праходзіць. Я вельмі спадзяюся, што для дзяцей гэты перыяд, гэты стрэс пройдзе не вельмі заўважна. Прычым не толькі для маіх, а для ўсіх тых, хто сёння ў Беларусі бачыць, як затрымліваюць іх бацькоў, прысутнічае наператрусах. Хто па-за межамі Беларусі не можа ўбачыць тату ці маму, бо іх закатавалі.

— Ці змянілі б вы штосьці ў вашым жыцці, каб была такая магчымасць? — запыталася я ў Святланы, бо апошнім часам сама задаю сабе гэта пытанне.

— У жыцця няма ўмоўнага ладу. І гэта добра. Пра гэта важна памятаць кожны дзень і кожны раз, калі трэба рабіць выбар. Таму нічога не стала б мяняць. І я прайду той шлях, які выбрала. Які ўсе мы выбралі. Мы ўсе вымушаны быць моцнымі. Мы знаходзім сілы трываць і змагацца кожны ў розным. Але галоўнае — тое, што мы верым у нашу перамогу і ведаем, што праўда на нашым баку.

Кожны дзень набліжае нашу перамогу. Таму я хачу зараз сказаць усім тым, хто чакае гэтага за кратамі: мы ўсе, хто застаўся па гэты бок вязніцы, ні на хвіліну не перастаем думаць пра вас. Асэнсаванне таго, што вы там за нас, што вы ахвяравалі сабой, сваёй свабодай і здароўем, дае нам энергію змагацца далей, не апускаць рукі ні на хвіліну. Беражыце там сябе, старайцеся захоўваць спакой. Вы нам вельмі патрэбныя.

Тым, хто працягвае змагацца, хачу падзякаваць і сказаць: усё не дарэмна, разам мы можам шмат. Не здавайцеся, памятайце пра тых, хто ахвяраваў сваім жыццём. Мы адказныя за сваю будучыню і нашу краіну. Перад нашымі дзецьмі. Забараніце сабе словы: «А што я магу?» Кожны можа шмат. Ад кожнага залежыць усё. Калі вам становіцца цяжка, падумайце пра тых, хто не можа, як вы, выпіць ранкам гарбаты ці пагуляць увечары па парку. Ад таго, што вы сёння робіце, залежыць тое, як хутка яны змогуць выйсці на волю.

Тым, хто хоча жыць у новай краіне, але яшчэ не гатовы нешта для гэтага зрабіць, хачу сказаць: ад вас таксама шмат залежыць, гэта і ваша краіна. Вы можаце пісаць лісты зняволеным, падпісаць петыцыю, не пагаджацца са знявагай.

Калі ўсе зразумеем, што мы адказныя за нашу будучыню, то абавязкова зможам нарэшце выйсці з багны «стабільнасці» і зможам развівацца, ісці далей. Стаць ці не найлепшай у свеце краінай для жыцця. Бо ў Беларусі жывуць найлепшыя людзі, якія вартыя найлепшай будучыні. Кожны дзень, калі я гляджу навіны з Беларусі, адчуваю боль, такі моцны і шчымлівы ад беззаконня і рэпрэсій да мірных людзей, што цяжка стрымліваць слёзы. Але разам з тым, я адчуваю вялікі гонар за беларусаў, за тое, якія яны моцныя, смелыя, шчырыя і салідарныя.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Прапагандай рэформы не заменіш

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Так, у Беларусі прыпыніліся масавыя пратэсты — вясна пакуль халодная, дый сілавікоў ганяюць штонядзелю туды-сюды. Але кожны тыдзень з'яўляюцца навіны, якія «хістаюць рэжым».**




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Бадай, галоўнай з іх за тыдзень было тое, што ЗША аднаўляюць прыпыненыя ў 2015 годзе эканамічныя санкцыі. Кажуць, што ўмовай іх неўзнаўлення быў выпуск да 26 красавіка ўсіх палітвязняў у Беларусі, колькасць якіх на сёння перавысіла 325 чалавек. У спісе тых, хто акажацца пад санкцыямі, — прадпрыемствы, звязаныя з нафтавай галіной: «Беларускі нафтавы гандлёвы дом», «Белнафтахім», «Белшына», «Гродна Азот», «Гродна Хімвалакно», «Лакафарба», «Нафтан», «Полацк Шкловалакно».

Падавалася б, прадпрыемствы, хоць і буйныя, але іх няшмат, і Беларусь гэтыя санкцыі перажыве, як перажывала іх і раней. Але, насамрэч, свет змяніўся, і санкцыі змяніліся таксама: цяпер яны тычацца не толькі непасрэдна прадпрыемстваў. Пад амерыканскую забарону могуць трапіць і тыя кампаніі, якія вядуць справы са згаданымі вышэй прадпрыемствамі. А гэта не толькі пакупнікі і прадаўцы беларускай прадукцыі, але і, напрыклад, банкі, якія праводзяць плацяжы.

Адзін з супрацоўнікаў «Белнафтахіма» кажа, што гэта — вельмі сур'ёзна. Напрыклад, шмат прадукцыі канцэрну перавозіцца марскім шляхам. Але тут ёсць нюанс: лагістычныя цэнтры знаходзяцца ў Ратэрдаме і Гамбургу, а ўжо адтуль прадукцыя як «Белнафтахіма», так і для «Белнафтахіма» ідзе да кліентаў. «Адпаведна, ёсць вялікая верагоднасць арышту грузаў у Еўропе», — піша прадстаўнік прадпрыемстваў у адным з тэлеграм-каналаў.

Хаця мог бы і не пісаць. Пра сур'ёзнасць санкцый, якія яшчэ нават не пачалі дзейнічаць, заявілі самі ўлады. «Гродна Азот» арганізаваў тэндар на перавозку сваёй прадукцыі коштам аж 5 мільёнаў долараў. Адна з умоваў тэндару — не паказваць, што гэта прадукцыя «Гродна Азот».

Беларуская дыпламатыя зноў, паводле трапнага выразу аднаго з нашых чыноўнікаў МЗС, «пацярпела чарговую перамогу». Украінская дэлегацыя ў Трохбаковай кантактнай групе па Данбасе не будзе наведваць Мінск для непасрэдных перамоў і сустрэч. Пасля адмены каранціну неабходна шукаць іншую краіну. Пра гэта віцэ-прэм'ер-міністр — міністр па пытаннях рэінтэграцыі часова акупаваных тэрыторый Украіны Аляксей Рэзнікаў сказаў у эфіры праграмы «Свабода слова» на тэлеканале ICTV.

«Мы катэгарычна паведамілі, што не будзем удзельнічаць у пасяджэннях Трохбаковай кантактнай групы, калі раптам завершыцца каранцін і будзе прапанавана працягнуць гэтыя кансультацыі, як раней, непасрэдна ў Мінску. Мы патлумачылі, што ўкраінская дэлегацыя не будзе накіроўваць сваіх чальцоў дэлегацыі ў Мінск для сустрэч у рэальным жыцці, усё роўна давядзецца шукаць іншую краіну, іншы горад», — сказаў Рэзнікаў.

Усё таму, што ва Украіне няма даверу да Мінска.

Цікавы выпадак адбыўся ў Мінску на дзяржаўным малаказаводзе №1. Кіраўніцтва завода ўвяло «дадаткі да кантракту», якія прадугледжвалі ўсеагульную матэрыяльную адказнасць. Людзям, што абурыліся гэтай сістэмай, звыкла было сказана: «Не падабаецца — звальняйцеся!»

А людзі ўзялі і звольніліся. «Божа, гэта самы шчаслівы дзень у маім жыцці. Я працавала майстрам. Яны нядаўна нам панізілі тарыфную стаўку, а цяпер адказнасць гэтая... Працавалі амаль суткамі. Спачатку было 12 гадзін, потым 24. Потым 16, 19... Гэта значыць, прыйшла ў 7 раніцы, сышла праз суткі, дзень, каб адаспацца, выхадны і зноў на сутачную змену. За гэта можна было зарабіць ад 700 да 850 рублёў», — распавяла адна з працоўных «Анлайнеру». «Нам усё жыццё тут казалі, што незаменных людзей няма, што чарга ў аддзел кадраў вялізная. Цяпер у іх ёсць магчымасць гэта паказаць», — гаварылі іншыя.

У выніку новую дамову не падпісалі 94 чалавекі, 63 звольніліся, а канфлікт прыехала «разрульваць» кіраўніцтва Мінскага аблвыканкама. Звольненым супрацоўнікам цяпер прапануюць вярнуцца, а дырэктара абяцалі замяніць.

Вось што адбываецца, калі народ перастае баяцца. На ГМЗ-1 людзі ўяўна паказалі, хто гаспадар на прадпрыемстве, і ад каго яно залежыць больш — ад працоўнага альбо ад дырэктара.

Аднак трэба яшчэ паглядзець, ці не падмануць працоўных і ці сапраўды здымуць дырэктара. Таму застаецца і пытанне паўторнага масавага звальнення.

Яшчэ адна структура, што цвяроза ацаніла сітуацыю, — Нацбанк, які не паглядзеў на афіцыйны прагнозы паказчык інфляцыі ў 5%. Рэгулятар заявіў, што чакае па выніках года інфляцыю на ўзроўні не ніжэй за 7,2%.

Характэрна, што адным з фактараў, якія ўплываюць на зніжэнне тэмпаў інфляцыі, спецыялісты Нацбанка назвалі зніжэнне ўзроўню спажывецкага імпарту, што захаваецца на працягу мінімум двух гадоў. А падзенне спажывецкага попыту, у тым ліку і на імпартныя тавары, тлумачыцца толькі зніжэннем узроўню даходаў насельніцтва.

Пагадзіцеся, гэта не вельмі карэлюецца з «пераможнымі рэляцыямі» ўрада і Белстата пра тое, што «рэальны заробак у Беларусі вырас на 4,2%».

І такіх дробненькіх, але паказальных навінаў — вельмі багата. Нашым нібыта «ўладам» жыццё ці не кожны дзень падказвае — немагчыма жыць і працаваць як раней, па-старому. Ці не першы раз ім гэта гучна заявілі 9 жніўня 2020-га. Але ў спробах затармазіць час кіраўнікі толькі рыюць сабе яму, з якой наўрад ці атрымаецца выкараскацца.

Тэлевізійныя заклінанні, што «ўсё добра», не адмяняюць рэальны стан рэчаў. Прапаганда толькі маскіруе рэальнасць і проста замінае шукаць адэкватныя рашэнні па выхадзе з крызісу, у якім мы аказаліся.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Аляксандра Герасіменя



**Галоўнае следчае ўпраўленне Следчага камітэта распачало крымінальную справу ў дачыненні да алімпійскай чэмпіёнкі Аляксандры Герасімені і Аляксандра Апейкіна, якія ў жніўні мінулага года арганізавалі «Беларускі фонд спартыўнай салідарнасці».**

Справа распачатая за заклікі да здзяйснення «іншых дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, учыненых з выкарыстаннем СМІ або глабальнай камп'ютарнай сеткі Інтэрнэт».

Следства сцвярджае, што Герасіменя і Апейкін распаўсюджвалі «заведама лжывыя звесткі пра ход і вынікі выбараў, пра падзеі ў сацыяльнай, эканамічнай, палітычнай і культурнай сферах жыцця грамадства». Таксама спартсменам ставяць у віну, што яны выступалі з заклікамі на адрас іншых дзяржаў і міжнародных арганізацый «да здзяйснення дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы рэспублікі»: «У выніку дзеянняў Герасімені і Апейкіна, а таксама іншых асоб нанесена значная іміджавая і фінансавая шкода, падарваны прэстыж краіны на міжнароднай і палітычнай арэне, дыскрэдытавана кіраўніцтва спартыўнай галіны і дзяржавы», — заявілі ў СК.

«Калі нас адзначылі, значыць, мы на правільным шляху і робім усё слушна», — так пракаментавала навіну алімпійская чэмпіёнка.

### Таццяна Гацура-Яворская



**Гацура-Яворская і Наталля Трэніна арганізавалі выставу, прысвечаную гераізму медыкаў падчас пандэміі. Уладам выстава не спадабалася — яе закрылі, а арганізатараў адправілі на Акрэсціна.**

Выстава пра медыкаў «Машына дыхае, а я — не» адкрылася ў прасторы «Месца» 30 сакавіка, а ўжо 1 красавіка санстанцыя і МНС знайшлі на пляцоўцы парушэнні, таму выставу давялося перанесці ў анлайн. У ноч з 5 на 6 красавіка каманда са шкадаваннем заявіла, што «вымушаная спыніць рэалізацыю праграмы праекта "Машына дыхае, а я — не"».

Наталля Трэніна перастала выходзіць на сувязь 5 красавіка. У яе кватэры прайшоўператрус, Трэніну забралі на Акрэсціна.

У той жа дзень была затрыманая яшчэ адна арганізатарка выставы, кіраўніца грамадскай ініцыятывы «Звяно» Таццяна Гацура-Яворская. Днём у яе кватэры і ў офісе «Звяна» таксама прайшлі ператрусы.

Пазней стала вядома, што Гацура-Яворская з'яўляецца падазраванай па ч. 3 арт. 293 КК (Навучанне, іншая падрыхтоўка асоб для ўдзелу ў масавых беспарадках, фінансаванне або іншае матэрыяльнае забеспячэнне такой дзейнасці).

### Віктар Бабарыка



**У Мінску працягваецца працэс над прэтэндэнтам на пасаду прэзідэнта і былым кіраўніком «Белгазпрамбанку» Віктарам Бабарыкам.**

У судовую залу па-ранейшаму пускаюць абмежаванае кола людзей, адвакаты не могуць нічога каментаваць з-за падпіскі аб невыдаванні і пагрозы пазбаўлення ліцэнзіі. 6 красавіка Віктар Бабарыка пачаў даваць паказанні — і адразу ж скончыў. Ён не прызнаў сваю віну, назваў працэс палітычна матываваным і далейшыя сведчанні даваць адмовіўся.

Бабарыка адзначыў, што за 20 гадоў працы банка і рэвізійная камісія, прызначаная акцыянерамі, і аўдытары, і Савет дырэктараў, і рэйтынгавыя агенцтвы, і знешнія кантралюючыя органы не звярталі ўвагі на тую схему, пра якую цяпер кажа абвінавачванне. Да таго ж у студзені 2020 года ў «Белгазпрамбанку» скончылася пазачарговая праверка Нацбанка, якая вялікіх прэтэнзій не высунула.

«Я вельмі шчыра сумняваюся ў аб'ектыўнасці судовага разбору. Я выдатна разумею той прэсінг, які працягваецца нават цяпер. Вы чулі заявы спадара Лукашэнкі, спадара Шведа пра ўжо ўстаноўленую віну. Пакуль на гэтым этапе я не буду адказваць на пытанні і даваць якія-небудзь тлумачэнні. Перакананы, што тое, у чым абвінавачваюць людзей і ў чым яны прызнаюцца, — яны не вінаватыя», — заявіў Бабарыка.

а | Азбука паліталогіі

# Краіна нявыкананых заданняў



Сяргей НІКАЛЮК

**У беларускай мадэлі, калі глядзець на яе з космасу з дапамогай айчыннага спадарожніка дыстанцыйнага зандавання Зямлі, можна ўгледзець мноства добрых якасцяў. Іншая справа, што такой здольнасцю бачыць валодаюць нешматлікія асобы. На шчасце, схільнага да публіцыстыкі старшыню Прэзідыума НАН РБ, акадэміка Уладзіміра Гусакова можна смела прылічыць да ліку гэтых абраных.**




Зямля з космасу падобная да шара, а беларуская мадэль паўстае ў выглядзе Беларускай мадэлі развіцця (БМР). Адчуваеце розніцу?

Слова акадэміку: «Незалежная, збалансаваная і досыць эфектыўная сацыяльна-эканамічная палітыка, якая паслядоўна рэалізуецца нашай дзяржавай ужо больш за чвэрць стагоддзя, ва ўмовах самага жорсткага міжнароднага ціску і абмежаванасці ўласных прыродных рэсурсаў, стала найважнейшым дасягненнем. Карэнным чынам змяніліся аграрная, прамысловая, энергетычная, сацыяльная сферы».

Газетны фармат накладае пэўныя абмежаванні. Таму з чатырох сфераў, вылучаных акадэмікам, прапаную найперш засяродзіцца на прамысловасці.

## Зандаванне нацыянальнай эканомікі з космасу

23 сакавіка адзіны палітык (АП) наведаў ААТ «Мінскае вытворчае гарбарнае аб'яднанне». Для тых, хто сочыць за падобнымі лёсавызначальнымі падзеямі, гэта быў рымейк візіту на ТАА «Мотавелазавод». Галоўнае адрозненне палягала толькі ў тым, што ў першым выпадку гаворка ішла аб праблемах вытворчасці ровараў і матацыклаў, а ў другім — аб праблемах гарбарнай галіны.

Візіт у Гатава пачаўся з пытання пра плошчы, якія займае прадпрыемства. Па словах генеральнага дырэктара Вольгі Палітыка, «прадпрыемства размясцілася на тэрыторыі 27 га, аднак палова тэрыторыі не задзейнічаная. Там стаяць пустыя і непрыдатныя будынкі».

А цяпер з дапамогай прэс-рэлізу, запазычанага на галоўным сайце краіны, перанясемся на Партызанскі праспект: «У цяперашні час значная частка тэрыторыі "Мотавела" не выкарыстоўваецца. Частка будынкаў струхлелі, патрабуюць рамонту і рэканструкцыі, а часам і зносу».

Цікава, ці пустыя і непрыдатныя будынкі на плошчах беларускіх прамысловых флагманаў бачныя з космасу? Падчас зандавання родных прастораў спадарожнік здольны адрозніць вытворчыя будынкі, якія патрабуюць рамонту, ад тых, якія падлягаюць зносу?

Акадэмік, які зандуе стан нацыянальнай эканомікі з космасу, такімі дробязямі не цікавіцца. Ён думае маштабна: «Метадалагічнай асновай беларускай сацыяльна-эканамічнай мадэлі стала арганічная сукупнасць сістэмнага і інстытуцыйнага падыходаў». Але пералік вартасцяў беларускай мадэлі развіцця на гэтым не заканчваецца: «Сёння беларуская сацыяльна-эканамічная мадэль, як вядома, характарызуецца развітой сістэмай дзяржаўнага кіравання, незалежнай шматвектарнай знешнеэканамічнай палітыкай, якая базуецца на прыярытэце нацыянальных інтарэсаў, роўнасцю формаў уласнасці, развітой сацыяльнай палітыкай і сістэмай сацыяльных гарантый».

Оптыка-электронная апаратура айчыннага спадарожніка выраблена на беларускім прадпрыемстве «Пеленг». З зандаваннем поспехаў на макраўзроўні ён спраўляецца паспяхова, што і дазваляе акадэміку разважаць пра роўнасць усіх формаў уласнасці і сацыяльныя гарантыі. Іншая справа — «больш за 8 мільёнаў рублёў запазычанасці перад мясакамбінатамі за пастаўленую сыравіну, што звязана на шыі». Для фіксацыі такіх дробязяў патрэбная цэйсаўская оптыка. Але ж дзе яе ўзяць?

З запазычанасцямі і ў айчынных вытворцаў матацыклаў і ровараў справы ідуць не лепшым чынам. Асноўны спосаб іх ліквідацыі — указы АП. Але адным указам справа не абмяжоўваецца. Указам пра спісанне даўгоў, як правіла, папярэднічаюць указы пра льготы.

Вянчае ж «арганічную сукупнасць сістэмнага і інстытуцыйнага падыходаў» прапанова па стварэнні чарговага холдынгу. Аб'яднаннем вытворцаў у большасці выпадкаў топ-адміністратары не абмяжоўваюцца. У моду сёння ўваходзяць холдынгі вытворча-гандлёвыя. Пажадана — пад эгідай аднаго з вытворцаў.

Пра тое, наколькі такога кшталту адміністрацыйныя ноу-хау аказваюцца эфектыўнымі, можна меркаваць па стратах галаўной арганізацыі дрэваапрацоўчага холдынгу «Івацэвічдрэў», якія склалі ў 2020 годзе 64,6 мільёна рублёў.

## Праблема заслонкі

Але вернемся ў Гатава. Тыя, хто мае вушы, хай пачуюць: «Прыйшоў час адказваць — вы ўносіце прапановы, якія выключаюць прынятыя рашэнні. ***Ні адно з даручэнняў не выканана*** (вылучана. — С.Н.). Вось яна, галіна, — на адным прадпрыемстве. Тут трэба перапрацаваць усе шкуры, якія ёсць у Беларусі. Вы перапрацавалі? Не. Вы забяспечылі гарбарнай сыравінай абутковую, мэблевую, галантарэю і іншае? Не забяспечылі».

**Пры ўсёй папулярнасці слогана «Эканоміка — галоўнае!» архітэктары БМР эканамічнае развіццё ніколі не разглядалі ў якасці мэты, а толькі як сродак. Мэтай жа з'яўляецца ўлада. Ва ўладацэнтрычнай культуры іншага і быць не можа**

БМР, як нам раней пераканаўча растлумачыў акадэмік, «характарызуецца развітой сістэмай дзяржаўнага кіравання». У краіне, якая адкрывае гарызонты ў будучыню за кошт фарміравання касмічнай, атамнай, біяхімічнай і іншых сучасных галін, без высокаэфектыўнага менеджменту не абысціся. Нездарма ж пры АП функцыянуе Акадэмія кіравання, якая асвоіла масавую падрыхтоўку кіраўнікоў «новай генерацыі».

На жаль, аўтар «Азбукі паліталогіі» не валодае інфармацыяй пра колькасць такіх на ААТ «Мінскае вытворчае гарбарнае аб'яднанне». Але Вольга Палітыка, генеральны дырэктар прадпрыемства, мяркуючы па наяўнасці дыплома Акадэміі кіравання (2016), да «новай генерацыі» належыць. Тым не менш вінаваціць яе ў нyздольнасці перапрацоўваць «усе шкуры» я б не спяшаўся. Дырэктарствуе яна крыху больш за год. Аднак і шанцаў выконваць у поўным аб'ёме даручэнні, на якія такі шчодры АП, у яе няшмат. Жыццёвы досвед — сын памылак цяжкіх — служыць таму зарукай.

Як і яе ўсходні сусед, беларуская «моцная дзяржава» здольная здабываць прыбытак толькі з прыроднай рэнты. Па прыклады далёка хадзіць не давядзіцца. Студзень-люты БМР нечакана скончыла хай і з сімвалічным, але з плюсам (0.8%).

Прычыну поспеху ўбачыць і неспецыяліст. Яна — у росце апрацоўчай прамысловасці на 7,5%. Хто ў лідарах? Можа, вытворцы тэкстылю, адзення, гарбарных вырабаў ды футра? Ды не, яны скурчыліся на 2%. У лідарах — вытворцы нафтапрадуктаў (+44,1%) і калійных угнаенняў (+60%).

БМР, аднак! Адкрые Расія нафтавую заслонку шырэй — расце ВУП, прыкрые — падае. Што ў такіх умовах застаецца рабіць яе галоўнаму архітэктару? Адказ на гэта пытанне можна знайсці ў прыпавесці «Трусы і ўдавы» пісьменніка Фазіля Іскандэра: «Ставіць натуральныя прычыны сабе ў заслугу, а памылкі лічыць натуральнымі прычынамі».

## Скокі на адной назе

У нашых заходніх суседзяў, з якімі архітэктары БМР абменьваюць нафтапрадукты і ўгнаенні на высокатэхналагічную прадукцыю, карэнныя пераўтварэнні ў аграрнай, прамысловай, энергетычнай і сацыяльных сферах праходзяць без актыўнага ўдзелу дзяржаў. Як у іх гэта атрымліваецца?

Адказ на гэта пытанне можна знайсці ў «Азбуцы паліталогіі», апублікаванай у верасні 2018 года: «Краіны-лідары, сцвярджае расійскі публіцыст Георгій Сатараў, "з'яўляюцца пешаходамі на дзвюх нагах". Адна нага — досыць эфектыўная дзяржава (улада), другая — развітая грамадзянская супольнасць. У кожнай нагі — свая функцыя. Дзяржава адказвае за падтрыманне стабільнасці, грамадзянская супольнасць забяспечвае адаптыўнасць да знешніх і ўнутраных выклікаў».

БМР скача на адной назе. А як далёка можна праскакаць такім арыгінальным чынам? Усё залежыць, па-першае, ад кірунку руху, па-другое, ад оптыкі, з дапамогай якой пройдзены шлях ацэньваецца.

З дапамогай оптыкі, выробленай на «Пеленгу» і размешчанай у космасе, акадэмікі адсочваюць развіццё без праблем. Чаго не скажаш пра дактароў, а тым больш кандыдатаў навук. Але сапраўдная каштоўнасць развіцця не ідзе ні ў якое параўнанне з каштоўнасцю стабільнасці.

Пры ўсёй папулярнасці слогана «Эканоміка — галоўнае!» архітэктары БМР эканамічнае развіццё ніколі не разглядалі ў якасці мэты, а толькі як сродак. Мэтай жа з'яўлялася, з'яўляецца і будзе з'яўляцца ўлада. І гэтую асаблівасць БМР не варта зводзіць да своеасаблівасці канкрэтнай асобы. Ва ўладацэнтрычнай культуры іншага і быць не можа.

Таму свет ідзе сваім шляхам, а БМР — сваім. Ёй з астатнім светам не па шляху. Як доўга будзе працягвацца дывергенцыя divergence (ад французскага divergence — «разыходжанне») — сказаць складана. Але ў любой своеасаблівасці ёсць мяжа.

Сяргей ПУЛЬША

# Дымавая заслона з наступствамі

**Новыя папраўкі ў законы, што «штампуе» Палата прадстаўнікоў, сесія якой адкрылася 2 красавіка, падобныя на «дымавую заслону» ў завіруху: нібыта ёсць, але не працуе.**

### Гайкі закручваюцца

Днямі «палатнікі» адмянілі тое, што раней прынялі іх калегі ў межах «лібералізацыі» айчыннага заканадаўства, і пайшлі яшчэ далей. Напрыклад, у законе аб масавых мерапрыемствах адмяняецца паведамляльны парадак іх арганізацыі і правядзення. Раней існаваў спіс месцаў, дзе можна было праводзіць любыя мітынгі, заключыўшы дамову з медыкамі і міліцыяй — напрыклад, на плошчы Бангалор у Мінску. Цяпер усе масавыя мерапрыемствы могуць праводзіцца выключна на падставе дазволу мясцовых органаў улады — як і раней, да «лібералізацыі».

Зрэшты, гэты парадак усё адно не працаваў. Міліцыя адмаўлялася падпісваць дамовы, а апошнім часам мітынгі і акцыі ніхто не ўзгадняе ўвогуле.

Цяпер забараняецца асвятленне ў рэжыме рэальнага часу недазволеных масавых мерапрыемстваў «з мэтай іх папулярызацыі або прапаганды», то-бок вядзенне «стрымаў» з акцый і наўпроставых эфіраў.

«На журналістаў распаўсюджваецца патрабаванне па выкананні грамадскага парадку нароўні з удзельнікамі масавых мерапрыемстваў», — магчыма, гэта фраза мае на ўвазе, што журналістаў будуць прыцягваць да адказнасці за працу на недазволеных мерапрыемствах. Але, каб вынесці за дужкі журналістаў дзяржаўных СМІ, то ўдакладняецца, што караць будуць толькі тых, хто «парушае грамадскі парадак».

Таксама ўнесеныя папраўкі ў закон аб супрацьдзеянні экстрэмізму. Яны прадугледжваюць паскораны разгляд грамадзянскіх спраў супраць арганізацый з прыкметамі экстрэмізму, а таксама прызнання сімволікі, атрыбутыкі ды інфармацыйнай прадукцыі экстрэмісцкімі матэрыяламі. У законе даюцца вызначэнні тэрмінаў «экстрэмісцкая сімволіка і атрыбутыка», «экстрэмісцкае фарміраванне». Акрамя таго, ён пашырае вызначэнне тэрмінаў «экстрэмізм», «экстрэмісцкія матэрыялы» і вызначае парадак забароны дзейнасці экстрэмісцкіх фарміраванняў.

Сёння пад вызначэнне «экстрэмізм» трапляюць усе больш-менш палітычныя справы і літаратура, звязаныя з пратэстамі. Пад «экстрэмізм» трапіла кніга Змітра Лукашука і Максіма Гарунова «Беларуская нацыянальная ідэя», якая свабодна прадавалася ў «Акадэмкнізе», ці кніга «Беларускі Данбас».

А наперадзе — магчымыя папраўкі ў закон аб СМІ, калі рашэнне аб спыненні выпуску СМІ будзе прымаць Мінінфармацыі (без суда), а таксама «ў выпадку прыняцця рашэння міжведамаснай камісіяй па бяспецы ў інфармацыйнай сферы пры Савеце бяспекі Беларусі аб наяўнасці ў СМІ матэрыялаў і паведамленняў, распаўсюджванне якіх здольна прывесці да ўзнікнення пагроз нацыянальнай бяспецы».



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

### Дымавая заслона заканадаўства

Як бачым, палова з таго, што цяпер прымаюць «палатнікі», і што названае «рэпрэсіўным заканадаўствам» (лагічней было б называць гэта «рэпрэсіўнай законатворчасцю»), ужо ці была ў нашай гісторыі, ці дэ-факта існуе цяпер. Можа быць, дэпутаты рэагуюць на складаную сітуацыю? Насамрэч, наўрад ці. Дзейнасць нашых «народных абраннікаў» скіраваная на тое, каб фармальна «ўзаконіць», а значыць, нібыта апраўдаць тыя рэпрэсіўныя практыкі, якія існуюць у паводзінах беларускіх сілавікоў. Проста цяпер гэтыя практыкі знаходзяцца ў межах «часам не да законаў». З прыняццем абноўленых законаў аб экстрэмізме, аб масавых мерапрыемствах, аб СМІ гэтыя практыкі будуць нібыта насіць законны характар. Такім чынам адбываецца пэўнае «апраўданне сілавікоў», яны, нібыта, будуць дзейнічаць ужо не «па бязмежжы», а быццам у рамках законнасці.

Насамрэч, абноўленае заканадаўства — гэта проста такая «дымавая заслона», закліканая схаваць тыя ж самыя бязмежныя і незаконныя дзеянні. Нават з прыняццём гэтага заканадаўства бязмежжа сілавікоў законным не стане — па адной простай прычыне.

Беларуская ўлада пасля 9 жніўня 2020-га, аб чым ужо шматкроць гаварылася і пісалася, страціла давер людзей і тое самае, што называецца «ўнутранай легітымнасцю». А якраз «унутраная легітымнасць», калі людзі пагаджаюцца прызнаваць уладу ўладай, і робіць прынятыя ўладай законы — законамі. Цяпер гэтага няма і блізка.

Калі страчана ўнутраная легітымнасць, калі ў грамадства маюцца абгрунтаваныя сумневы ў законнасці дзейнай улады, прынятыя ёю дакументы і законы аўтаматычна робяцца нікчэмнымі. Якая розніца, што за законы прымуць «палатнікі», якіх ніхто не абіраў? Калі яны ігнаруюць сто тысячаў подпісаў, сабраных у абарону бел-чырвона-белага сцяга, хаця для заканадаўчай ініцыятывы трэба ўдвая менш — 50 тысячаў? Калі за восем месяцаў палітычнага крызісу яны не знайшлі час нават правесці слуханні па фактах гвалту і катаванняў у краіне?

Становішча сённяшніх «народных абраннікаў» кепскае ўдвая, бо ўсе ведаюць, што па факце яны таксама занялі свае крэслы незаконна. Мы ж не забыліся, што гэты склад парламенту абраны з наймаштабным парушэннем заканадаўства, што фактычна ў краіне ў 2019 годзе былі праведзеныя датэрміновыя выбары, а мінулы склад Палаты прадстаўнікоў пазбавілі амаль 10 месяцаў паўнамоцтваў. І ўсё гэта было праведзена валюнтарысцкімі рашэннямі нават без нейкай бачнасці законнасці: падстаў для датэрміновага спынення паўнамоцтваў Палаты прадстаўнікоў, прадугледжаных арт. 94 Канстытуцыі, не было, чатырохгадовы тэрмін яе паўнамоцтваў не мінуў, а выбары ў новы склад заканадаўчага органа адбыліся толькі рашэннямі Лукашэнкі. І нехта яшчэ лічыць гэты склад Палаты прадстаўнікоў легітымным?

Якія ж законы можа прыняць нелегітымны парламент? Правільна: альбо ніякія, альбо нелегітымныя.

**Калі страчана ўнутраная легітымнасць, калі ў грамадства маюцца абгрунтаваныя сумневы ў законнасці дзейнай улады, прынятыя ёю дакументы і законы робяцца нікчэмнымі. Якая розніца, што за законы прымуць «палатнікі», якіх ніхто не абіраў?**

### Ці атрымаецца «бачнасць законнасці»?

Усе гэтыя целазрухі па наданні бачнасці законнасці дзеянням сілавікоў, на вялікі жаль для ўсіх іх, наўрад ці прывядуць да жаданага выніку. І не толькі таму, што нелегітымная ўлада не можа стварыць легітымных законаў. Ёсць яшчэ адно пытанне, якое палягае ў тым, што новаствораны закон не мае зваротнай сілы.

Цяпер можна напрымаць кучу законаў, якія як бы апраўдваюць штрафы і арышты за бел-чырвона-белыя майткі на балконах, за шкарпэткі і штаны «няправільнага колеру», за «дэманстрацыю пратэсту зефркай» і за тое, што чалавек «маўкліва ўхваляў» дзеянні пратэстоўцаў. Можна нібыта ўзаконіць і «ананімных сведак у балаклавах», і закрыццё «на суткі» бацькоў непоўнагадовых дзяцей і ўвогуле — любое цемрашальства і бздуру, сведкамі якой мы сталі ў апошнія часы.

Аднак апраўдаць гэтыя цемрашальства і бздуру — не атрымаецца. Усе факты парушэння правоў чалавека і беларускага заканадаўства ўжо адбыліся. Яны ўжо задакументаваныя і замацаваныя як на паперы, так і ў электронным выглядзе, у фота і відэадоказах і паказаннях сведкаў. «Адкруціць час назад» ні ў каго не атрымліваецца і не атрымаецца.

З 1 сакавіка ў нас пачаў дзейнічаць абноўлены Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях. Па ім значна ўзмацнілася пакаранне, — напрыклад, цяпер за «паўторнае» затрыманне на акцыі можна сесці на 30 сутак замест 15-ці. Але хто гэта заўважыў?

Грамадства гэтага не заўважыла і не адчула, таму што і раней саджалі нават не на 30 сутак, а на 45, часам і на 90, і на 105 сутак. Вольга Хіжынкова правяла за кратамі 42 дні: спачатку асуджаная на 12, потым на 15, потым яшчэ раз на 15. І ўсё гэта — не выходзячы з вязніцы, нягледзячы на тое, што заканадаўства патрабавала паміж арыштамі рабіць перапынак.

А ці заўважыў хто, што самы папулярны артыкул 23.34 КаАП цяпер мае іншы нумар: 24.23? Нават журналісты часам памыляюцца, калі пішуць пра затрыманні, «на аўтамаце» адзначаючы стары нумар артыкула Кодэкса.

І вось цяпер нам, напрыклад, плануюць забараніць «стрымы» з акцый. А як гэта можна зрабіць, калі тэлефон з камерай і выхадам у інтэрнэт — у кожнага першага, а відэа выкладае у Facebook ці Telegram кожны трэці?

Можа быць, «бачнасць законнасці» і з'явіцца. Але бачнасць законнасці — гэта не законнасць.

### Сумны лёс «дэпутата»

Відавочна, што такое «зацісканне гаек» працягваецца, каб запалохаць насельніцтва. Але ўлада яшчэ не зразумела, што народ ужо не запалохаеш. Чым больш будзе рэпрэсіўных законаў, чым больш яны будуць прымацца і ўжывацца — грамадства стане не больш напалоханым, але больш злым.

І гэта злосць можа выліцца на вуліцы ў любы момант. Дастаткова нават маленечкага трыгеру, каб сціснутая спружына супраціву сарвалася. Гэтым трыгерам можа быць усё, што заўгодна: пагаршэнне матэрыяльнага становішча, дэвальвацыя, выхад на вуліцы ўсяго тысячы людзей, і гэтак далей. Бунт мажлівы ў любы момант.

А яшчэ — не варта забывацца пра каляндар. Нават калі ў нас не будзе пазачарговых прэзідэнцкіх, у нас наперадзе — мясцовыя выбары. У межах «заціснутых гаек» і велічэзнай палітызацыі грамадства будзе вельмі цікава, як улады збяруцца іх праводзіць. Асабліва ў тым стане, калі выйграць (і нават проста правесці) выбары сумленна гэтая ўлада не зможа ўжо ніколі.

А потым, як казаў у каментары «Салідарнасці» праваабаронца Алег Волчак, «на дэпутатаў разам з супрацоўнікамі МУС ляжа адказнасць за пагаршэнне становішча грамадзян, якое супярэчыць прававым нормам. Калі ў краіне будзе працаваць незалежны суд, людзі, якія пацярпелі ад новых нормаў кодэкса, змогуць падаць пазовы да канкрэтных дэпутатаў, якія галасавалі "за"».

За цёплыя крэслы і маўчанне таксама давядзецца заплаціць. Прычым з уласнай кішэні.

# «Ну і няхай пасадзяць, буду

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**«Я ўсё ж такі веру, што гэта скончыцца, бо цяпер без веры нельга». Так скрозь слёзы пра надзею на вызваленне сына кажа Любоў Уладзіміраўна, матуля палітвязня Сяргея Коршуна, які сядзіць у СІЗА на Валадарскага.**


Фота Яны Трусіла

Сям'я палітвязня Коршуна

## «Не верыла, што за малюнкі можна пасадзіць»

Матулі не хапае яго смеху, пляменніцы Надзі — яго гульняў і жартаў. Сястры Вользе часам проста хочацца абняць брата і паразмаўляць з ім: так заўсёды было, калі сям'ёй бавілі час на лецішчы. Мужу Вольгі Аляксею не хапае добрага і надзейнага сябра. Ганна, малодшая дачка Вольгі, Сяргея, напэўна, не памятае. Ды і сам Сяргей сумуе, што не бачыць, як яна расце, таму просіць запісваць відэа, каб можна было пасля іх праглядаць.

Сяргей, блогер тэлеграм-канала «Армія з народам», быў затрыманы яшчэ ў ліпені. Тады яму прад'явілі артыкул па арганізацыі або актыўным удзеле ў групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак (342 КК). Ён стаў фігурантам так званай «справы Ціханоўскага». Калі пра абвінавачанне даведаліся сваякі, то ўзгадалі, што 29 траўня, калі ў Гродна затрымалі Ціханоўскага, Сяргей разам з сям'ёй быў на лецішчы.

Пачытаўшы навіны, ён сказаў тады, што і яго затрымалі б, калі б ён быў там. Відаць, з той прычыны, што доказы пад гэты артыкул сабраць не атрымалася, у лютым абвінавачанне перакваліфікавалі ў 293-ы артыкул Крымінальнага кодэксу («Масавыя беспарадкі»). Згодна яму, Сяргею пагражае ад трох да васьмі гадоў пазбаўлення волі. Жорсткасць прадстаўленага абвінавачання сваякі тлумачаць у тым ліку і тым, што некалі Сяргей быў у сістэме: дзесяць гадоў ён працаваў міліцыянерам у патрульна-паставой службе. Сышоў адтуль Сяргей у званні капітана.

Сваякі ведалі, што Сяргей быў актыўным падчас выбарчай кампаніі, але ў магчымае затрыманне, нават пасля двух допытаў, не верыў ніхто. У тэлеграм-канале ён ні да чаго не заклікаў, а напісаў пост пра тое, з якіх падраздзяленняў складаецца МУС.

— Сяргей казаў, каб я не хвалявалася, калі яго раптам пасадзяць, — узгадвае матуля Любоў Уладзіміраўна. — Але я тады ўсур'ёз не ўспрымала яго словы, бо не верыла, што за малюнкі можна пасадзіць. Іх жа ў інтэрнэце мільён! Я казала тады: «Сярожа, усіх не перасаджаюць!» А калі яго пасадзілі, дык, канечне, раўла, але каб ніхто не бачыў...

Калі жонка Сяргея паведаміла, што яго забралі прама з кватэры, стала зразумела, што на волю ён вернецца не хутка. На той момант у сям'і былі спадзяванні, што невінаватасць Сяргея будзе даказаная.

— Мы думалі, што праз месяц-два ўсё стане зразумела, — узгадвае Аляксей. — Так, мы ведалі, што на ім — сур'ёзны артыкул. Але думалі, што будзе нешта падобнае на справу «Белага легіёну».

## Заўважаць добрае

Калі Сяргей перастаў прыязджаць да бабулі, якой на момант яго затрымання было 96 гадоў, ёй прыйшлося распавесці, што з ім стала. Тады бабуля прасіла пасадзіць яе, а Сяргея — адпусціць. Аднак любімага ўнука яна так і не дачакалася. Бабулі не стала некалькі месяцаў таму. Сяргею пра гэта пэўны час не казалі. Але ён адчуваў, што блізкія нешта недагаворваюць, таму напісаў сястры: «Волька, нешта вы ад мяне хаваеце!» А калі яго жонка ў лісце пра ўсё распавяла, дык ён даслаў назад сям'і бабулін фотаздымак: ад болю не мог на яго глядзець.

Перажываў Сяргей і за бацьку, бо той у лякарні чакаў аперацыю па выдаленні пухліны. Матуля Сяргея Любоў Уладзіміраўна, кажа, што выпрабаванні апошняга года накопліваюцца нібы снежны ком. Але яна разумее: для таго, каб выконваць штодзённыя абавязкі, ёй трэба быць моцнай. У аўторак і суботу

ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

# «Ластаўкі заўсёды вяртаюцца ў

**Больш за тры сотні лепшых грамадзян Беларусі, прызнаных палітвязнямі, сёння за кратамі — сярод іх і студэнты, якія марнуюць сваю маладосць у турме. Ліставанне з імі ідзе з перашкодамі, і Кася Будзько, якая ў свае 19 сустракае вясну за кратамі, амаль не атрымлівае вестак ад блізкіх. Родныя і сябры перадаюць шчырыя вітанні дзяўчыне ў адкрытым лісце.**



— Трымайся! Не падай духам! Ты ўсё адолееш! Ты моцная! Я ў цябе веру! Мы ўсе верым! Беражы здароўе! Не забывай, што ты чалавек!

Бог дае на долю кожнаму толькі тыя выпрабаванні, якія ён можа вытрываць. Ён ведае, якая ты ў мяне моцная і смелая! Я табой вельмі ганаруся! Сама вучуся ў цябе трываласці і барацьбе са страхамі.

Ты для нас — нібы Жанна Д'Арк.

Я заўсёды побач! Я люблю цябе! Трымаю за руку і днём і ноччу! Мы з табой не зломімся, не страцім сябе! Варта шанаваць сваё здароўе, і фізічнае, і псіхалагічнае. Варта любіць сябе і людзей.

Не забывай, што ты не адна!

Ты ўнікальная!

Ты асоба!

Ты мастачка, чалавек, які бачыць усё навакольнае не так, як іншыя, а ва ўсіх тонах, паўтонах, адценнях, бліках. Ты ўсё ўспрымаеш вастрэй, прапускаеш праз сябе, сваю душу. Ты здольная ўвасабляць гэты досвед у гліне, на паперы ці тканіне і мусіш рабіць гэта. Малюй! Ты мастачка!

Я ведаю: не магла ты зрабіць нешта дрэннае ці шкоднае для іншых. Ты вельмі добразычлівы чалавечак, які не ведае абыякавасці і заўсёды гатовы дапамагчы. Вельмі адкрытая да навучання, гасцінная да сяброў, сваякоў і ўсяго свету. Ты вельмі мэтанакіраваная, заўсёды прагнеш спазнаць і зведаць усё, што табе цікава.

Мы заўсёды паважалі і будзем паважаць твой выбар.

Трымай мяне за руку!

**Мама**

— Дачушка! Я не сумняваюся, што ты годна трымаешся ў гэтых складаных абставінах. Толькі сорамна, што за кратамі аказалася ты, а не я.

**Тата**

— Добры дзень, мая зайка! Мая любая ластаўка, мы па табе вельмі сумуем. Ластаўка мая любая, як ты думаеш, чаму ластаўка? Ды адказ вельмі просты: ластаўкі адлятаюць увосень і вяртаюцца ўвесну. Вось і ты ад нас так нечакана і надоўга адляцела... Не, не адляцела, а цябе вырвалі, выхапілі, скралі з нашага жыцця. Проста сіл нестае! Гэта было восенню, а цяпер вясна — і мы ўсе-ўсе-ўсе цябе чакаем. Гукаем з вясной дадому. Чакаем твайго вяртання, наша любая ластаўка. Бо ластаўкі заўсёды вяртаюцца ў свае гнёзды. І тваё цябе чакае. Ты для нас самая любая, прыгожая, разумная, вельмі добрасумленная, ласкавая, неабыякавая дзяўчынка, і мы чакаем цябе і вельмі жадаем, каб сваё 20-годдзе ты сустрэла ў коле бацькоў, сваякоў і сяброў, з усімі разам. З усіх сіл чакаем і цалуем.

**Бабуля і дзядуля**

— Прывітанне ад сотыікоты! Вельмі чакаю цябе і сумую. Спадзяюся, што хутка будзеш дома =)

**Леся**

— Ты, напэўна, вельмі непакоішся пра тое, што адбываецца ў краіне, але не баішся. Нам усім не хапае тваёй дабрыні і спагадлівасці. Мы верым, што ў кожным разе ўсё будзе добра. Галоўнае — заставайся моцнай і трывалай.

**Маша Макусь**

— Я цябе вельмі люблю і чакаю, ты найлепшае, што адбылося са мной у жыцці. Ты проста неверагодная, і я вельмі рада, што ты сябруеш са мной. Я заўсёды пытаюся, чаму такая класная дзяўчынка, як ты, увогуле стасуецца са мной? Не ведаю, чым я заслужыла гэта, але дзякуй.

Хачу сказаць, што я вельмі ганаруся табой. Што б ты ні рабіла, я заўсёды буду падтрымліваць цябе. Ты заўсёды дзейнічаеш у адпаведнасці са сваімі прынцыпамі, спрабуеш зрабіць гэты свет лепшым нават цаной асабістай свабоды.

Памятаю, як у нашу апошнюю сустрэчу ты сумавала, што я паеду дадому на два тыдні. А праз тыдзень што цябе забралі. Ну, пагадзіся, што чакаць чатыры месяцы нашмат горш, чым два тыдні?) Ну, нічога страшнага, я пачакаю, колькі б часу гэта ні заняло.

Ужо вясна, спадзяюся, мы хутка пабачымся, зможам паехаць на роварах куды пажадаеш, возьмем намёты — і зноў будзем шчаслівыя.

**Веранiка**

— Вядома, ні пра які камфорт і гаворкі не можа ісці, але я веру, што ты адаптавалася да гэтых умоў. Прынамсі, я сябе так заспакойваю. Гэта ўсё жудасна сумна, цяжка і невыносна, але я ўпэўнены, што наперадзе цябе чакае мноства добрых момантаў — варта толькі дачакацца. Мы яшчэ абавязкова пабачымся, пагуляем, з'ездзім куды-небудзь на роварах, зладзім пікнік, з'ездзім усе разам на лецішча, і ўвогуле пераробім безліч спраў. Спадзяюся, што да цябе дойдзе хоць адзін мой ліст)

**Лёша**

— З усімі гэтымі падзеямі пачынаеш разумець, што каштоўнасць усяго мы разумеем толькі тады, калі гэтага няма побач. Так і з табой — за гэтыя чатыры месяцы зразумела, наколькі моцна ты зараджала мяне пазітывам і энергіяй (асабліва калі атрымала ад цябе ліст і паштоўку!), і наколькі моцна цябе не хапае. Каб ты разумела — нядаўна размаўляла з тваім аднакурснікам і сказала, што ўвечары да нас прыйдуць «Кася з Янай». Пасля выправілася, але стала трохі балюча. Аднак я ведаю, што ты вытрымаеш, што мы хутка пабачымся і зладзім не адну тусоўку! Люблю і абдымаю ♥

**Аліна**

# сядзець разам з сынам!»

яна піша Сяргею лісты, перадае перадачы. А ў прамежках — стасуецца з неабыякавымі людзьмі, якія прапануюць дапамогу. Матуля кажа, што такіх людзей шмат.

— Усё, што можам, — гэта прыйсці да СІЗА і перадаць перадачу, — кажа Любоў Уладзіміраўна. — І тое: у адзін дзень булачкі прымаюць, а ў іншы — не прымаюць — здзекуюцца, як могуць. Тое, што зараз робіцца, проста жах... Цяпер нашых дзяцей толькі і могуць, што асуджваць на суткі за шкарпэткі, а мы, як мамы, можам толькі сядзець і плакаць. Калі мы выйдзем на праспект, нас таксама забяруць.

Звычайны набор перадачы для Сяргея — гэта кілбаса, вяндліна, сыр, чыпсы, хлеб, нешта з салодкага. Передача звычайна дзеліцца на ўсіх, хто сядзіць у камеры. Сяргей распавёў блізкім, што пасля пад'ёму яны з'ядаюць па бутэрбродзе з кілбасой, а 10 раніцы — зноўку перакус, а ўвечары п'юць гарбату з прысмакамі. Цікава, што калі нехта пасля вячэры хоча нешта з'есці, то на гэта трэба атрымаць дазвол у большасці сядзельцаў або ў старэйшага. Са шпацырам тое ж самае: калі ў кепскае надвор'е нехта не хоча выходзіць на яго, то не ідуць усе.

У перапісцы, як і ў размовах паміж сабой, блізкія не ўпадаюць у роспач, а намагаюцца бачыць добрае нават у тым, што Сяргей знаходзіцца ў няволі. Яны адзначаюць, што за кратамі Сяргей стаў чытаць кнігі: з'явіўся на гэта час. Таксама ўпершыню ў жыцці Сяргей стаў пісаць вершы і перадаваць іх родным. Першы свой верш ён напісаў яшчэ ў жніўні, назваўшы яго «342». Сястры ён дазволіў верш рэдагаваць, а пасля даў даручэнне пакласці яго на музыку. Любоў Уладзіміраўна радуецца з таго, што Сяргей стаў рабіць менш памылак у лістах. Яна фіксуе памылкі, а пасля ў адказе на яго лісты праводзіць над імі работу.

Акрамя ўсяго, Сяргей не выключаецца з сямейных спраў, а наадварот, трымае ўсё пад сваім кантролем. Пляменніцы піша, якія кнігі тая мусіць прачытаць, Вользе загадвае з'ездзіць да матулі і зрабіць генеральную прыборку, а Аляксею — выкаладзіць дываны ў кватэры... «Ён і адтуль кіруе працэсам», — смяецца Вольга.

Пасля сямі месяцаў за кратамі сваякам дазволілі спатканне з Сяргеем. На гэта была вылучана гадзіна. І цэлы спіс, пра што размаўляць нельга. На забароненыя тэмы стасаваліся вачыма і жэстамі. Сяргей схуднеў, але не моцна, што праўда, пасівеў. Калі Вольга пабачыла брата, не вытрымала, расплакалася:

— Ён тады паглядзеў на мяне і сказаў: «Малая, ну-ка, не плакаць!».

Каб заглушыць слабасць Вольгі, матуля адразу паведаміла Сяргею радасную навіну пра здароўе бацькі: за некалькі хвілін да спаткання сваякі даведаліся, што яго пухліна аказалася незлаякасная.

Родныя ўзгадваюць, што першыя лісты ад Сяргея былі складаныя, было бачна, што ён — у разгубленасці. Але цяпер у словах палітвязня з'явілася цвёрдасць і рашучасць: ён не баіцца прысуду і ўпэўнены, што цяперашнія пакуты беларусаў — недарэмныя.

**«Буду сядзець разам з сынам»**

Істотная падтрымка для сям'і цяпер — гэта камунікацыя з іншымі сваякамі вязняў: людзі сустракаюцца за гарбатай, удзельнічаюць у псіхалагічных трэнінгах, пішуць лісты... Сябрамі сям'і сталі зусім незнаёмыя людзі, якія проста лістуюцца з Сяргеем. Таксама вялікую падтрымку аказвае «хросны» Сяргея, дэпутат Еўрапейскага парламента Анджэй Галіцкі. Па словах сваякоў, ён піша лісты ва ўсе інстанцыя — ад СІЗА да Міністэрства юстыцыі. Блізкія вераць, што такая падтрымка прынясе плён у свой час.

Страху за ўласную будучыню ў сям'і няма. Сам Аляксей меў пратакол па 23.34. Звальнення за свае погляды ён не баіцца: «А чаго баяцца? Рукі ёсць, галава ёсць... Праца знойдзецца».

Не мае страху і матуля Сяргея. Яна распавяла, што некаторыя знаёмыя, калі даведаліся, што яна будзе даваць інтэрв'ю, сталі адгаворваць яе: "За гэта ж садзяць!" Сама любоў Уладзіміраўна кажа: «Ну і няхай пасадзяць! Буду сядзець разам з сынам».

За ўсю гутарку з блізкімі Сяргея ніводнага разу не пачула і роспачы. Па іх аповедах, — у Сяргея таксама яе няма.

— Сяргей — вернік, — скрозь слёзы з усмешкай кажа матуля. — Бадай што ў кожным лісце ён піша: «Мама, я малюся за цябе і за тату і веру, што Госпад нас пачуе». Вось і я малюся і веру... Веру, што нешта зменіцца. Без веры нельга цяпер. Яна дае ўпэўненасць, што ўвесь гэты жах скончыцца... Проста таму, што большасць гэтага хоча.

Сяргею 21 сакавіка споўнілася 43 гады. Пляменніца Надзя зрабіла ў яго гонар невялікі ролік са здымкамі Сяргея пад спеў «Воіны святла». Сваякі вераць, што наступныя народзіны Сяргея яны будуць святкаваць усёй сям'ёй. Вольга кажа, што абавязкова заспяваюць «Грай!», любімую з братам песню. Дарэчы, сам Сяргей грае на валторне.

***

Падаецца, што можна любыя пакуты зняволення адужаць, калі на волі чакае такая сям'я. Сяргею з ёй моцна пашанцавала. Як і сваякам пашанцавала з моцным і жыццярадасным Сяргеем, які нягледзячы на абставіны працягвае адыгрываць у сям'і ролю мужа, сына, брата, дзядзькі... І зняволенне гэтаму перашкодзіць не зможа.

ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

# свае гнёзды. І тваё цябе чакае»

— Цяпер цёмныя часы для беларусаў, бессэнсоўна гэта адмаўляць, але ў кожнай цемры ёсць свае прасветы. Для мяне адным з такіх стаў твой інстаграм. А яшчэ Ксюшаў, а яшчэ твае і Яны малюнкі, а яшчэ сотні праяваў салідарнасці з вамі з усіх куточкаў свету, і яшчэ пара дзясяткаў штук розных — вялікіх і маленькіх. Я чытала інтэрв'ю розных людзей, што выйшлі з турмы, пра тое, як яны былі ўпэўненыя, што тут іх нічога добрага не чакае (што дзвіж памёр, у шэрагах беларусаў і беларусак разруха і адчай, як тое старанна даводзіць машына дзяржпрапаганды і, вядома ж, сама турма), — і былі літаральна знесеныя лавінай падтрымкі і пазітыўных навін. Папросту ведай, што ўсё нашмат лепш, чым можа падавацца.

Сёння мы ведаем, што такое сапраўдны студэнцкі рух. Сёння мы верым адзін у аднаго, як ніколі раней. Сёння мы пабачылі сапраўдны твар дзяржаўнай машыны.

За гэтым «сёння» стаіць шмат болю, але ў нас усё яшчэ ёсць мы. Так што ведай гэта, кажы пра патрэбную дапамогу (і не саромейся!) і малюй, па магчымасці, як найбольш — вашы вестачкі з турмы даюць нам тут +100 да матывацыі рабіць усё магчымае, каб гэтая цемра нарэшце скончылася.

**Саша Кузміч**

— Кася, я ў нейкім сэнсе адчуваю сваю адказнасць за ўсё тое, што сёння адбываецца ў тваім жыцці, бо мы разам прайшлі шлях ад «нешта не так» да разумення таго, што наш лёс і лёс нашай краіны ў нашых, і толькі нашых, руках. Я ганаруся тым, якой адказнай, сумленнай ты стала. Ганаруся, якой шчырай, добрай і справядлівай ты засталася. Памятаеш, калі мы бегалі раніцай і было цяжка, я казаў, што «лепшая будучыня» — гэта не спрынт, гэта марафон. Я веру, што са сваім жыццёвым марафонам ты справішся, станеш яшчэ лепшая і пераможаш усе праблемы. Чакаю на волі, абдымаю!

**Яўген Міхасюк**

— Кася, у цябе заўсёды добра, цікава атрымлівалася тлумачыць свае думкі і распавядаць гісторыі. Гэта адна са шматлікіх рэчаў, якіх не хапае, сумую па тваёй актыўнасці ў празе паўсюль і заўсёды быць карыснай. Спадзяюся, хутка сустрэнемся і ты, як звычайна, будзеш жартаваць, а я, як звычайна, смяяцца :)

**Аліна Арабава**

— Паспрабую не ліць вады, бо памятаю, што горшага наконт для цябе не існуе (тэрмас вярні :D).

Хутка ўжо Калабайкі зноў выкінуць на вуліцы. Спадзяюся, неўзабаве пакатаемся — і будзем шмат размаўляць падчас пакатушак. Расказаць сапраўды ёсць шмат чаго, але менавіта расказаць, бо пісаць пра ўсё зашмат, а галасавыя паведамленні за краты пакуль не прымаюць.

Вось, жартаваць спрабую, каб не дадаваць сур'ёзнасці сітуацыі, якая і так ужо сур'ёзнасці стварыла. Спадзяюся і веру, што засталося ў тваім жыцці месца для жартаў. Такому сонейку ніяк не выпадае сумаваць увесь час. Больш за тое, сонейка зараз якраз і не хапае, бо то адліга перамагае, то зіма зноў прыцісне. Але сонейка абавязкова выйдзе і зіма саступіць, бо толькі так жыццё доўжыцца, сама ведаеш.

Таму не забывай свяціць і ты, дзень настае нават тады, калі неба зацягнутае хмарамі, бо сонейку ўсё адно.

Сумую, хвалююся, чакаю. (Не абдымаю, персанальныя граніцы, памятаю).

**Прохар**

**«Сёння мы ведаем, што такое сапраўдны студэнцкі рух. Сёння мы верым адзін у аднаго, як ніколі раней. Сёння мы пабачылі сапраўдны твар дзяржаўнай машыны. За гэтым "сёння" стаіць шмат болю, але ў нас усё яшчэ ёсць мы»**

— Кася, ведаеш, мяне заўсёды ўражвала тваё жаданне змяніць свет да лепшага, ярка выяўленае пачуццё справядлівасці і, канешне, твая творчасць ды неверагодны талент. Шчыра, ніяк не магу адшукаць прыдатныя словы падтрымкі, хоць спрабую ўжо не першы дзень... Проста памятай, што ты надзвычайная, выбітная, шчырая і смелая дзяўчынка, якая можа прайсці праз усе цяжкасці. Хоць мы і не дачыняліся апошнія гады, я ўсё роўна непакоюся пра цябе і нецярпліва чакаю якіх-небудзь вестак. Як кажуць, keep calm and dream, бо мары здзяйсняюцца.

**Аня Фелістовіч**

— Да таго, як убачыў твае малюнкі, я не ведаю, як табе там (на зоне), так сказаць, — і ўсё, што я мог зрабіць, гэта ўяўляць. Адна частка мяне думала пра тое, як там можа быць дрэнна, а другая думала і ўзгадвала, як ты адаптавалася да розных абставінаў. І калі я ўбачыў малюнкі і пачаў чытаць турэмныя аповеды, то крыху заспакоіўся, бо выглядала не так блага, як думала песімістычная частка мяне. Ты моцны і пакуль самы камфортны чалавек у маім жыцці, вельмі спадзяюся, што мы хутка пабачымся!

**Данік Касенка**

— Гэтым днём ты пачуеш шмат цёплых слоў. Вер ім, гэта праўда, гэта ўсё чыстая праўда! Рэальнасць вакол цябе моцна змянілася, але не думай, што ты змянілася ўслед за ёй. Не, ніколі ты не ўбярэш у сябе шэрасць сцен, холад падлогі і безаблічнасць камер — ты незвычайная, Кася! І нават калі ты на гэта забудзешся, узгадай нас, тваіх верных і поўных любові сяброў. Што б ні казаў табе змрочны навакольны свет, ты маеш рацыю, маем рацыю мы. Беражы сябе.

**Лізавета**

— Мне вельмі падабаецца стыль Касі. Не толькі ў адзенні і прычосцы, але і стыль таго, як тонка яна адчувае свет. Такое пачуццё выклікаюць у мяне яе фотаздымкі. Падаецца, рэчы, якія яна здымае, навідавоку, але ніхто на іх не зважае. А на кадрах Касі звыклыя аб'екты поўняцца гумарам, іроніяй і прыгажосцю. Я была вельмі рада, калі ёй спадабаўся мой творчы праект, адчула, што рухаюся ў правільным напрамку. Дзякуй, Кася.

Яшчэ ў Касі неверагодныя інтанацыі голасу, яркія і музычныя.

**Лена Іонава**

— Здароў, Кася!

У мяне ў галаве твае рознакаляровыя шкарпэткі :) Добра памятаю, як у абодвух нас было па пары рознакаляровых шкарпэтак, але мы адзявалі іх у розныя дні. Але я ўсё яшчэ нашу адну жоўтую, а другую блакітную, так што ўпэўнены, што былі дні, калі ў Мінску было як мінімум два дзівака (або дзівачкі) з рознымі шкарпэткамі! Але пакуль я іх не выварочваю, гэта застаецца толькі тваёй асаблівасцю. А іх у цябе шмат! Ты самы суперскі чалавек з тых, каго я ведаю, і я ўпэўнены, што ты застанешся такой жа класнай, нават калі будзеш «бэбушкай». Карацей, люблю, абдымаю і вельмі чакаю цябе і ўвесь твой крэатыў!

**Лёша**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Для іншаземцаў — асобныя законы

У Расіі стартавала кампанія па выбарах у Дзярждуму, маркёрам якой сталі абяцанкі палітыкаў. Пакуль далей за ўсіх пайшоў старшыня партыі «Радзіма», дэпутат Дзярждумы Аляксей Жураўлёў.

Ён прапанаваў судзіць замежнікаў па асобным Крымінальным кодэксе. «Крымінальную адказнасць для грамадзян і мігрантаў неабходна дыферэнцаваць, каб усе разумелі, хто ў доме гаспадар. Мігранты павінны ведаць, што за аналагічныя праваparушэнні яны атрымаюць тэрміны большыя, чым грамадзяне краіны. Згодна з цяперашнім заканадаўствам, пры здзяйсненні злачынства на тэрыторыі Расіі замежнікі падлягаюць адказнасці нароўні з грамадзянамі краіны. Але гэта несправядліва. Правы гаспадара і госця не могуць быць роўнымі», — на поўным сур'ёзе кажа палітык. Адзначаецца, што ідэя падобнага КК «ужо даўно рэалізуецца» ў шэрагу краін Персідскага заліву, дзе замежнікі за вулічны разбой могуць атрымаць нават пажыццёвы тэрмін.

Рэакцыя на словы Жураўлёва аказалася абсалютна непрадказальнай. Ідэя двух кодэксаў натхніла расіян патрабаваць на інтэрнэт-форумах увядзення асобнага заканадаўства для чыноўнікаў і дэпутатаў з больш жорсткім, чым звычайнае, пакараннем.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВАТЫКАН. Касцёл на парозе расколу?

У канцы сакавіка Рымская курыя паказала на недапушчальнасць дабраслаўлення святарамі аднаполых пар. Пасля гэтага шэраг святароў і біскупаў з розных краін выступілі з крытыкай у СМІ ці сваіх сацыяльных сетках пазіцыі пантыфіка, які заявіў, у прыватнасці, што аднаполыя закаханыя пары не адпавядаюць божаму плану.

Найбольш актыўна асуджае Папу Рымскага ліберальная фракцыя нямецкіх і аўстрыйскіх каталікоў. У святле гэтага канфлікту амерыканскае каталіцкае выданне National Catholic Register дапускае, што бліжэйшым часам каталіцтва чакае радыкальная палярызацыя. «Цяпер набліжаецца катастрофа — раскол», — піша выданне.

Абодва бакі сапраўды вельмі моцна паднялі стаўкі. Так, арцыбіскуп Венскі заявіў, што насуперак інструкцыі з Ватыкану працягне дабраслаўляць усіх людзей, «якія шукаюць дабраславення царквы». Але пакуль усё ж такі многія сумняваюцца, што справа дойдзе да расколу, бо Рымская курыя мае велізарны вопыт па вырашэнні ўнутраных супярэчнасцяў.

**Паводле замежнай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Цацачная мафія

Французская паліцыя паведаміла, што вядзе расследаванне па справе міжнароднай банды злачынцаў, якая спецыялізуецца на крадзяжах цацак Lego. Паліцыя нават папярэдзіла крамы цацак і калекцыянераў пра тое, каб яны абаранялі свае канструктары.

Папярэджанне разаслалі пасля таго, як арыштавалі трох чалавек, што праніклі ў краму цацак Lego ў Парыжы. Падчас допыту падазраваныя (яны былі з Польшчы) нібыта прызналіся, што з'яўляюцца ўдзельнікамі міжнароднага злачыннага картэлю, які выкрадае калекцыйныя наборы Lego і перапрадае іх у інтэрнэце. Аказваецца, канструктары Lego — сапраўдны скарб. Напрыклад, набор Lego Café Corner, выпушчаны ў продаж у 2007 годзе па цане 175 долараў, цяпер прадаецца амаль за 3000 долараў.

«Супольнасць фанатаў Lego складаецца не толькі з дзяцей, але і з дарослых, якія не шкадуюць грошай на сваё хобі», — тлумачыць гэты феномен адзін іх французскіх следчых. Паводле яго слоў былі выпадкі, калі хаты рабавалі з выключна адной мэтай — выкрасці наборы Lego.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ЕГІПЕТ. Фараоны пераехалі

На мінулыя выхадныя ў Егіпце ўрачыста адкрылі новы Нацыянальны музей егіпецкай цывілізацыі, які будавалі каля 10 гадоў. Сюды са шматлікіх музеяў краіны цырыманіяльна перавезлі 22 муміі цароў і царыц, а таксама 17 саркафагаў. Працэсія перавозу фараонаў прайшла па вуліцах Каіра ў суправаджэнні калясніц.

Дарэчы, некаторыя лічаць, што менавіта аперацыя па перавозцы фараонаў прывяла да шэрагу няшчасных выпадкаў, якія адбыліся нядаўна ў краіне. Гэта і буйная чыгуначная аварыя, і абвальванне дома ў Каіры, і, нарэшце, адчайныя прыгоды кантэйнеравоза Ever Given у Суэцкім канале. Усе гэтыя здарэнні выклікалі размовы: музей, вядома, справа добрая, але ж трывожыць фараонаў таксама вельмі не добра.

Зрэшты, галоўны пераезд яшчэ павінен адбыцца. У наступным годзе запланаваны канчатковы перанос сталіцы Егіпта ў горад Ведзіян. Новая сталіца была заснавана ў 2015 годзе на ўсход ад Каіра. Плануецца, што яе насельніцтва будзе складаць больш за 5 мільёнаў чалавек.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Песня, якая зрабіла рэвалюцыю

Алег НОВІКАЎ

**Не маюць рацыі тыя, хто кажа, што «Еўрабачанне» — гэта камерцыя і папса. У красавіку 1974-га ў Партугаліі конкурсная песня стала адным з сігналаў для паўстання. Зрэшты, галоўная роля ўсё ж належыць іншай мелодыі.**




Фота www.dialogosdosul.operamundi.uol.com.br

«Рэвалюцыя гваздзікоў» 1974 года ў Партугаліі да гэтага часу застаецца прадметам спрэчак гісторыкаў. Цяжка да канца зразумець, як адна з найстарэйшых каланіяльных імперый і самая працяглая па часе еўрапейская дыктатура магла сканаць усяго за пару сутак — прычым, практычна бяскроўна (тады загінулі чатыры чалавекі).

Пры гэтым уся рэвалюцыя выглядала вельмі каларытна. Адным з вырашальных эпізодаў была сцэна, калі простая прадавачка аднаго са сталічных універмагаў падышла да салдата і апусціла ў ствол яго вінтоўкі гваздзік. Жыхары горада ўслед за ёй пачалі адорваць салдат чырвонымі і белымі кветкамі, якія сімвалізавалі падтрымку народам рэвалюцыі.

Яшчэ адным яркім эпізодам з'яўляецца роля музыкі ў рэвалюцыі. А дакладней, дзвюх песень — «E Além do Adeus» (партугальская песня-конкурсант на «Еўрабачанні» 1974 года) і «Grândola, Vila Morena». Яны сталі сігналамі для жаўнераў-змоўнікаў. Зрэшты, лічыцца, што галоўным сігналам была іншая песня, паколькі яна загадвала непасрэдна браць зброю і выходзіць з казармаў. Не дзіўна, што з часам «Grândola, Vila Morena» стала сапраўднай легендай.

На беларускую мову назва песні перакладаецца як «Грандола, смуглявая вёсачка». Менавіта ў гарадку Грандола партугальскі музыка Жазэ Афонсу ў 1964 годзе натхніўся ідэяй напісаць песню пра братэрства мясцовых рыбакоў — як песня, «народ просты і мудры, які парадак свой наводзіць». Упершыню яна была выкананая самім Жазэ Афонсу ў іспанскай Галісіі ўвесну 1972 года.

Партугальцы ўпершыню пачулі «Grândola, Vila Morena» ў сакавіку 1972-га на канцэрце, які курыравала Міністэрства друку. Чыноўнікі таксама сачылі за палітычным рэнамэ ўдзельнікаў. Жазэ Афонсу быў у спісе нядобранадзейных як падазраваны ў сімпатыях да камуністаў. Некаторыя з яго песень раней былі забароненыя. Аднак у песні пра Грандолу цэнзары не заўважылі крамолы і ўхвалілі яе выкананне.

Мелодыя хутка стала папулярнай і спадабалася ў тым ліку ўдзельнікам афіцэрскага падполля, якое ў гэты час актыўна фарміравалася ў краіне. Сваім выхадам на палітычную сцэну «Рух капітанаў» (так нефармальна называлася арганізацыя), безумоўна, абавязаны крызісу, у якім аказалася Партугалія на пачатку 1970-х гадоў. Хаця заснавальнік дыктатуры Антоніу Салазар памёр у 1970-м, яго нашчадкі працягвалі стары курс, складнікам якога была

**Мелодыя дагэтуль захавала свой рэвалюцыйны дух. У лютым 2013 года выступ прэм'ер-міністра быў сарваны выкананнем «Grândola, Vila Morena». У 2020 годзе партугальцы таксама спявалі той матыў**

вайна за калоніі ў Афрыцы, што забірала да 40% дзяржбюджэту.

Першапачаткова афіцэры вылучалі, хутчэй, карпаратыўныя патрабаванні, але пазней чальцы падполля прыйшлі да ідэі перавароту. Неўзабаве кожны дзясяты афіцэр партугальскай арміі быў чальцом «Руху капітанаў». Урад, выявіўшы змову, пачаў тэрміновую адпраўку падазраваных у калоніі, але гэта не дало вынікаў. Капітаны перайшлі да арганізацыі паўстання.

Падчас распрацоўкі плану паўстала ідэя, што змоўшчыкам патрэбны сігнал, які можна было б перадаць па ўсёй краіне па радыё. Пры гэтым лепшым сігналам будзе нейкая ўмоўная песня. Адразу пачалі шукаць варыянты. Першапачаткова ў якасці пазыўных да паўстання прапанавалася перадаць іншую песню Афонсу — «Venham Mais Cinco». Аднак нейкі радыёвядучы, які прымаў удзел у канспіратыўным пасяджэнні, пераканаў, што гэта дрэнная ідэя: тая мелодыя была забароненая цэнзурай, таму адразу можа выклікаць падазрэнне.

У выніку было прынята новае рашэнне наконт сігналаў. Першым сігналам, які інфармаваў пра пачатак падрыхтоўкі да выступу, павінна была стаць песня «E Além do Adeus». Другой — «Grândola, Vila Morena». Яе перадалі ў палове першай ночы 25 красавіка некалькі радыёстанцый. Радыёвядучыя, якія давалі песню ў эфір, ведалі, што існуе план дзяржаўнага перавароту, але не здагадваліся пра тое, якую ролю ў ім павінна адыграць песня.

Пачуўшы мелодыю, паўстанцы вывелі свае фарміраванні з казармаў і рушылі да сталіцы. Вайсковыя часткі, якія паслалі падавіць выступ, перайшлі на бок паўстанцаў. Рабочыя і моладзь тысячамі хлынулі на вуліцы. Быў захоплены генеральны штаб, аэрапорты, арыштаваныя многія міністры. Нейкі супраціў паўстанцам аказала толькі таемная паліцыя D.G.S. Грамадства ахапіў шалёны энтузіязм. Не абышлося без эксцэсаў: студэнты і школьнікі ў той год адмаўляліся здаваць экзамены.

Што тычыцца твору Жазэ Афонсу, то ён стаў часткай гісторыі. Кожны год 25 красавіка на святкаванні «Рэвалюцыі гваздзікоў» яе выконваюць па ўсёй краіне. У Грандоле пабудаваны мемарыяльны мурал, прысвечаны песні.

Акрамя таго, мелодыя дагэтуль захавала свой рэвалюцыйны і пратэсны дух. Так, у лютым 2013 года выступ прэм'ер-міністра ў парламенце быў сарваны выкананнем матыву «Grândola, Vila Morena». У 2020 годзе, пратэстуючы супраць вулічных акцый ультраправай партыі Chega, партугальцы таксама спявалі той матыў. Напэўна, тут няма нічога дзіўнага. Тэма пра простых і мудры народ, які сам наводзіць свой парадак, ніколі не страціць актуальнасці.

# Дзе запісацца ў замежныя агенты?

Алег НОВІКАЎ

**Гледзячы на рыторыку праўладных экспертаў, прынянце закону аб замежных агентах у Беларусі — пытанне самага хуткага часу. А вось пра эфектыўнасць такой меры, калі ацэньваць замежны досвед, можна паспрачацца.**



Фота www.ru.depositphotos.com

Само азначэнне «замежны агент» і ідэя барацьбы з імі шмат у чым паўсталі дзякуючы органу ваеннай разведкі і контрразведкі фашысцкай Германіі — Абверу, які напярэдадні Другой сусветнай вайны актыўна будаваў сваю агентурную сетку ў ЗША. Натуральна, гітлераўская разведка працавала не адкрыта, а пад шыльдамі рознага кшталту гаспадарчых або культурных арганізацый.

Каб выкрываць актыўнасць нацыстаў, у 1938 годзе парламентам ЗША быў прыняты Закон аб рэгістрацыі замежных агентаў (FARA). У двух словах, ён патрабаваў, каб асобы, якія прадстаўляюць інтарэсы замежных дзяржаў у «палітычнай альбо квазіпалітычнай якасці», раскрывалі перад дзяржавай свае стасункі з замежным урадам і інфармацыю пра звязаныя з імі віды дзейнасці і фінансы. Мэта закону, як напісана ў дакуменце, была ў тым, каб садзейнічаць «ацэнцы ўрадам і амерыканскім народам пагрозы дзейнасці такіх асоб».

Асоба, якая падпадала пад прыкметы «замежнага агента», павінна была рэгістравацца ў лакальным філіяле Мінюсту і раз на паўгода здаваць туды справаздачу (у тым ліку фінансавую) наконт сваёй дзейнасці.

Аднак жадаючых рэгістравацца «агентамі» ў Злучаных Штатах заўжды было няшмат. Як і тых, каго асуджалі паводле FARA. З 1939 па 1992 год за парушэнні гэтага закона было распачата ўсяго 85 спраў (за час вайны — толькі 24). Напэўна, такую статыстыку шмат у чым можна патлумачыць супярэчлівасцю фармулёўкі «праца на замежную дзяржаву».

Грамадскія арганізацыі заўжды скардзіліся, што шырокія дэфініцыі паняцця «замежны агент» ахопліваюць велізарны спектр звычайных некамерцыйных мерапрыемстваў, што, аднак, фармальна патрабуе ад арганізацый рэгістрацыі ў якасці замежных агентаў. Напрыклад, пад закон, паводле яго логікі, траплялі сіянісцкія арганізацыі, якія збіралі грошы ў дапамогу Ізраіля.

Крытыкамі FARA прыводзіцца шмат прыкладаў абсурдных сітуацый, якія могуць паўстаць у дачыненні да згаданага заканадаўства. Напрыклад, звязаны з дзяржавай галандскі фонд прывозіць моладзевую зборную па плаванні ў ЗША на спаборніцтвы для інвалідаў. Супрацоўнік фонду ездзіць разам з камандай, каб займацца лагістыкай і аплачваць выдаткі. Ці трэба такому работніку рэгістравацца як замежнаму агенту? Бо ён выдае грошы ў Злучаных Штатах ад імя замежнай дзяржаўнай арганізацыі?

Як вынік, не дзіўна, што той закон перапісвалі некалькі разоў, а дэбаты наконт яго зместу трываюць дасюль. Некаторыя юрысты ўвогуле лічаць яго дзіўным прававым архаізмам 1930-х гадоў. Гэта, аднак, не перашкодзіла расійскім уладам імпартаваць ідэю «замежных агентаў». Адпаведна прынятаму ў 2012-м расійскаму закону, замежным агентам прызнавалася некамерцыйная арганізацыя, якая ўдзельнічае ў палітычнай дзейнасці і пры гэтым атрымлівае фінансаванне або маёмасць ад замежных арганізацый або грамадзян.

**Хутчэй за ўсё, на расійскі аналаг і будуць абапірацца распрацоўшчыкі беларускай версіі закону аб «агентах». Пытанне толькі ў тым, ці паспеюць яны дадаць туды свежыя напрацоўкі расійскіх законатворцаў?**

На гэтым не спыніліся. У снежні мінулага года Дзярждума прыняла папраўкі ў той закон. Цяпер «агентамі» могуць быць абвешчаныя грамадскія аб'яднанні, не зарэгістраваныя ў якасці юрыдычных асобаў, а таксама фізічныя асобы. Самі заканадаўцы кажуць, што знайшлі баланс, і простаму грамадзяніну перспектыва стаць «агентам» не пагражае. Апазіцыйныя ж медыя пішуць, што пры жаданні зрабіць гэта будзе вельмі лёгка. У гэтую групу патэнцыйна трапляюць таксама тыя, хто распаўсюджвае інфармацыю ад «СМІ — замежных агентаў».

У любым выпадку, хутчэй за ўсё, на расійскі аналаг і будуць абапірацца распрацоўшчыкі беларускай версіі закону аб «агентах». Пытанне толькі ў тым, ці паспеюць яны запусціць адаптацыю копіі ўжо дзеючага ў Расіі заканадаўства, або дададуць туды свежыя напрацоўкі расійскіх законатворцаў?

Якраз у гэтыя дні ў профільным камітэце расійскай Думы ідзе актыўная юрыдычная работа над распрацоўкай паняцця «кандыдат — замежны агент», і патрабаваннямі да яго ў выбарчай кампаніі. Такому палітыку сапраўды не пазайздросціш. Мала таго, што кандыдат, які запісаны ў «агенты», павінен пазначаць свой статус ва ўсіх агітацыйных матэрыялах. Акрамя таго, паведамляць пра сваю прыналежнасць да «агентаў» давядзецца і тым, хто ахвяруе грошы ў выбарчыя фонды. Зрэшты, магло быць і горш. На камітэце гучала ідэя цалкам забараніць «агентам» і чальцам іх сем'яў (!) удзельнічаць у выбарах.

З іншага боку, складаецца ўражанне, што праблемы для «агентаў-кандыдатаў» прыдумляюць, каб, хутчэй, напалохаць апанентаў, прымусіць устрымацца ад палітыкі. Стаць «агентам» не так проста. У той жа Расіі на цяперашні момант — усяго каля 75 замежных агентаў. Добрая частка з іх — замежныя фонды і філіялы арганізацый. Напэўна, улада сама цудоўна разумее: усіх у «агенты» не запішаш.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Метэ Фрэдэрыксен



Кіраўніца дацкага ўрада, які фарміруе мясцовая партыя сацыял-дэмакратаў, трапіла ў іміграцыйны скандал. Сацыял-дэмакраты Даніі праводзяць беспрэцэдэнтную жорсткую іміграцыйную палітыку на фоне іншых краін ЕС. Некалькі месяцаў таму яны паабяцалі адмаўляць у прытулку ўсім імігрантам.

У сакавіку выйшла пастанова, якая дазволіць пазбаўляць грамадзянства датчан без папярэдняга рашэння суда. А цяпер збіраюцца ўвесці квоты для жыхароў «незаходняга» паходжання ў гарадскіх раёнах. Закон, распрацаваны МУС, прадугледжвае, што колькасць нееўрапейцаў у адміністрацыйных адзінках не павінна перавышаць 30 працэнтаў. Такое рашэнне матывуецца тым, што ў раёнах з вялікай колькасцю мігрантаў могуць узнікнуць «структуры "паралельных грамадстваў", што павялічвае рызыку рэлігійнага экстрэмізму». У 15 раёнах краіны, дарэчы, такія грамадствы, калі верыць дацкаму МУС, ужо існуюць. А ў 25-ці могуць вось-вось паўстаць.

Каб не дапусціць такой сітуацыі, МУС збіраецца на працягу дзесяці гадоў давесці колькасць рэзідэнтаў-нееўрапейцаў да патрэбнай лічбы. Як яны будуць гэта рабіць, пакуль не зразумела. Адзіная саступка прыхільнікам талерантнасці — тое, што ўрад вырашыў не ўжываць слова «гета» ў дачыненні да праблемных раёнаў.

### Хуан Арланда Эрнандэс



Прэзідэнт Гандураса трапіў у пікантную гісторыю. У ЗША вынесены рэзанансны вердыкт, згодна з якім 42-гадовы Тоні Эрнандэс, брат прэзідэнта, асуджаны федэральным судом да пажыццёвага зняволення і штрафу ў 138 мільёнаў долараў.

Асуджанага затрымалі яшчэ ў лістападзе 2018 года ў Маямі за пастаўкі ў Злучаныя Штаты некалькіх тонаў гераіну, а таксама за забойствы. Больш за тое, бок абвінавачання на судовым працэсе сцвярджаў, што нейкі вядомы мексіканскі наркабарон праз брата перадаў прэзідэнту Гандураса хабар у памеры 1 мільён долараў. Прычым, рашэнне суда кідае цень не толькі на кіраўніка Гандураса. Інфармацыя пра хабар для прэзідэнта ад мексіканскага наркабарона дазваляе падазраваць, што Эрнандэс — не унікум. Можна казаць пра сувязі амаль усіх палітычных рэжымаў рэгіёна з наркагандлем.

З іншага боку, адмовіцца ад кааперацыі з імі Вашынгтон цяпер не мае магчымасці. Паўднёвыя межы Злучаных Штатаў штурмуюць мігранты з Цэнтральнай Амерыкі. Толькі за люты-сакавік амерыканскія памежнікі злавілі 110 тысяч нелегалаў. Яшчэ 50 тысяч, паводле экспертаў, усё ж прарваліся ў краіну. 24 сакавіка Джо Байдэн нават афіцыйна папрасіў віцэ-прэзідэнта Камілу Харыс націснуць на ўрады Мексікі і краін Цэнтральнай Амерыкі, каб тыя заблакавалі транзіт бежанцаў. Між тым, у кантэксце аферы Эрнандэса адносіны Вашынгтона са згаданымі ўрадамі набываюць цікавы фармат.

### Юлія Мендэль



Прэс-сакратарка прэзідэнта Украіны дала падставы падазраваць, што Кіеў думае над тым, каб змяніць моўную палітыку.

Усё праз яе інтэрв'ю, падчас якога прэс-сакратарка заявіла, што існуе і ўкраінская руская мова, якая, у сваю чаргу, ёсць «часткай культурнай разнастайнасці краіны». Заява выклікае вялікую цікавасць у кантэксце таго, што ў пачатку сакавіка кіраўнік МУС Украіны Арсен Авакаў казаў, што руская мова ў значнай ступені належыць Украіне. Таму адразу пайшлі гуляць чуткі пра тое, што ўлада мае намер аслабіць палітыку ўкраінізацыі і змяніць становішча рускай мовы.

Словы Мендэль выклікалі адмоўную рэакцыю ў нацыяналістаў і прыхільнікаў партыі Пятра Парашэнкі. Ідэю «ўкраінскай рускай» мовы яны назвалі шкоднай, а Авакава і Мендэль запісалі ў памагатых Крамля. Зрэшты, не выключана, што гаворка ідзе пра сітуацыйны піяр, каб узняць папулярнасць Зяленскага ў вачах рускамоўных украінцаў. Не кажучы пра тое, што ў камандзе прэзідэнта хапае прыхільнікаў жорсткай украінізацыі. Так, кіраўнік Савета бяспекі Леанід Данілаў нават вывеў формулу, паводле якой памяншэнне колькасці рускамоўных прама прапарцыйнае росту дзяржаўнай бяспекі. Прычым агульнавядома, што сам Данілаў таксама карыстаецца ў побыце рускай мовай.

Тым не менш, кропкавыя змены, — напрыклад, адмена штрафаў за невыкарыстанне ўкраінскай мовы ў абслугоўванні, — у прынцыпе эксперты дапускаюць.

# Генадзь Бураўкін і космас



Сяргей ШАПРАН

**У архіве Бураўкіна знойдзена невядомае фота Юрыя Гагарына**

60 гадоў мінула з часу першага палёту чалавека ў космас. Тым самым першым быў Юрый Гагарын — чалавек з сонечнаю ўсмешкаю, якога з Беларуссю радніла не толькі паходжанне — нарадзіўшыся ў былых межах Вялікага Княства Літоўскага, на Смаленшчыне, Гагарын са школы ведаў купалаўскі верш «Хлопчык і лётчык», гаварыў, што ён і падштурхнуў яго да выбару прафесіі.



Невядомы фотаздымак Юрыя Гагарына



Генадзь Бураўкін з беларускімі касманаўтамі Уладзімірам Кавалёнкам (злева) і Пятром Клімуком.



Пётр Клімук і Генадзь Бураўкін з жонкамі Юліяй і Ліліяй




Дарчы надпіс маці Юрыя Гагарына Ганны Цімафееўны

## «Нас вітаў усмешкаю Гагарын»

Гэта была незвычайная вясна і фантастычная навіна — чалавек у космасе. У гэты дзень у Купалаўскім тэатры была прэм'ера макаёнкаўскай «Лявоніхі на арбіце». Пра тое, што ў космас паляцеў першы зямлянін, парторг Купалаўскага Браварская паведаміла са сцэны адразу пасля антракту. У адказ зал забушаваў. І калі пасля Барыс Платонаў, які іграў Лявона, казаў: «Людцы, што робіцца — мая Лушка на арбіту выходзіць!», а затым, зрабіўшы паўзу, дадаў: «Услед за Гагарыным», публіка ўзарвалася апладысментамі, якія перараслі ў авацыю.

Гэтаксама і Максім Танк распавядаў, як адчуў у той дзень гонар за савецкую краіну. Здарылася гэта ў ЗША, дзе каля дзвярэй ягонага нумара ў гатэлі стаяў на варце двухметровы палісмен, які штораніцы вітаў паэта: «Good morning, sir!» Але аднойчы выходзіць Максім Танк з нумара, а палісмен нечакана кажа па-руску: "Здравствуйте, сэр!" У той дзень Юрый Гагарын паляцеў у космас.

А пра Янку Купалу і ягоных «Хлопчыка і лётчыка» згадвала маці першага касманаўта Ганна Цімафееўна Гагарына, калі ў 1980-я гады прыязджала ў Мінск і наведвала музей беларускага песняра. Беларусь прыгадваў і сам Юрый Гагарын, які хоць ніколі не быў тут, але цёпла адгукаўся пра краіну. Пра гэта вядома з аповеду Генадзя Бураўкіна, пераказанага Міхасём Скоблам.

1962 год. Міжнародны моладзевы фестываль у Хельсінкі, на якім прадстаўляць Беларусь выпала 25-гадоваму Бураўкіну. Усіх савецкіх дэлегатаў пасялілі на караблі. І вось жывуць у суседніх каютах беларус Генадзь Бураўкін, украінец Дзмітро Паўлычка, рускія Яўгеній Еўтушэнка і Юрый Гагарын. Пасля афіцыйных мерапрыемстваў сустракаюцца па-суседску, на зорнае неба любуюцца. І тут Бураўкін пачаў дапытвацца ў першага касманаўта свету, ці бачыў ён Беларусь з космасу? А Еўтушэнка (які пазней прызнае свае гомельскія карані) умешваецца:

— Надакучыў ты, Гена, са сваёй Беларуссю! Маленькая яна ў касмічных маштабах, яе і з Масквы часам не відно.

— Бачыў я Беларусь, — усміхнуўся Гагарын сваёй непаўторнай усмешкай і прыабняў Бураўкіна: — Яна прыгожа глядзіцца з космасу і асабліва цудоўная зблізку.

У інтэрнэт-прасторы можна адшукаць фотаздымак, дзе разам тры славутасці: паэт Аляксандр Твардоўскі, касманаўт Юрый Гагарын і кампазітар Дзмітрый Шастаковіч, і подпіс: «Тры этнічныя беларусы». Аўтар гэтага подпісу пэўна меў рацыю, бо Твардоўскі і Гагарын паходжаннем са Смаленшчыны (Твардоўскі нарадзіўся на хутары Загор'е, Гагарын — зусім блізка ад Беларусі, у гарадку Гжацк (цяпер Гагарын), а прадзед Шастаковіча, ураджэнец Віленскай губерні, быў удзельнікам паўстання 1830–1831 гадоў.

Што ж датычыць знакамітай гагарынскай усмешкі, то Генадзь Бураўкін згадваў яе не раз. Адно яго інтэрв'ю так і называлася: «Нас вітаў усмешкаю Гагарын». Але лёс падарыў паэту сустрэчу не толькі з першым касманаўтам Зямлі — пазней ён пазнаёміўся са старэйшым братам Юрыя Гагарына Валянцінам (калі ў 1982 годзе ў выдавецтве «Юнацтва» выйшла яго кніга «Мой брат Юрий») і з яго маці. «Семье Буравкиных на добрую память об семье Гагариных», — падпісала Ганна Цімафееўна фотаздымак, на якім яна была разам з сынам.

## «Прыязджай на радзіму, Пятро»

Зрэшты, гэта былі яшчэ не ўсе «касмічныя» кантакты Бураўкіна — ён быў не проста знаёмы, а сябраваў з першым беларускім касманаўтам Пятром Клімуком, ураджэнцам вёскі Камароўка (цяпер Тамашоўка), што на Брэстчыне. У хатнім архіве Генадзя Мікалаевіча захавалася шмат фотаздымкаў, дзе яны, маладыя, разам: і ўдвух, і з жонкамі, і з Васілём Зуёнкам, Віктарам Вуячычам, Ігарам Лучанком... І пісаў Бураўкін у «Пісьме Пятру Клімуку з заснежанай Камароўкі»:

*Панасыпала сення сумётаў,*
*Аж схаваліся яблынь камлі —*
*Быццам сотня тваіх самалётаў*
*Пракаціла віхор па зямлі,*
*Быццам хмарай пранесліся гусі —*
*Кожны скінуў на вёску пяро...*
*Слава, гонар, любоў Беларусі,*
*Прыязджай на радзіму, Пятро...*

Ужо ў часе апошніх нашых з ім гутарак, у траўні 2014-га, Генадзь Мікалаевіч згадваў, як Пётр Клімук, пабываўшы ў 1973 годзе ў космасе і рыхтуючыся да новага палёту (хоць, злятаўшы першы раз і гасцюючы ў доме Бураўкіных, казаў потым эмацыйна: «Хрэн я ім яшчэ палячу!»), параіўся, што б сімвалічнае беларускае ўзяць у космас наступным разам. «І вось тады мы пайшлі ў кнігарню, што на Карла Маркса, — распавядаў Генадзь Мікалаевіч, — і Пеця выбраў Канстытуцыю БССР на беларускай мове і томік «Новай зямлі». Але я, шчыра кажучы, калі ён сказаў, што вазіў гэта з сабой, трошкі сумняваўся, пакуль аднойчы Віталік Севасцьянаў пры нейкай сустрэчы не пачаў чытаць: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...» Я кажу: «Што, Пеця навучыў?» Ён: «Навучыў».

Пётр Клімук і Віталь Севасцьянаў правялі на касмічнай арбіце разам больш за два месяцы.

## «Зямля. Беларусь. Бураўкіну»

Але яшчэ пра тую апошнюю размову з Бураўкіным. Генадзь Мікалаевіч дадаў тады, што ў ягоным архіве і пасёння захоўваецца адзін дарагі яго сэрцу дакумент — канверт, на якім напісана: «Зямля. Беларусь. Бураўкіну». Гэта вітанне з космасу ўжо ад іншага беларускага касманаўта — Уладзіміра Кавалёнка, які гэтаксама, як і Клімук, тройчы бываў у космасе і які ў адну з вандровак да зор узяў паэтычны зборнічак блізкага сябра Бураўкіна паэта Васіля Зуёнка. Ён называўся незвычайна — «Нача». Быў відавочны сімвалізм у тым, што гэтая сціплых памераў кніжачка апынулася ў космасе, бо Нача — назва рэчкі, што працякае на Крупшчыне, адкуль паходжаннем не толькі паэт Васіль Зуёнак, але і касманаўт Уладзімір Кавалёнак.

## «Ён сам быў падобны да сонца»

Касмічная тэма нібы фантом праяўлялася ў бураўкінскай паэзіі:

*Мы будзённа гаворым пра космас.*
*Ён не слепіць ужо навізной.*
*След ракеты здаецца пракосам*
*Ці запыленаю баразной...*

Складаючы ўжо ў «нулявыя» гады томік вынікавага «Выбранага», Генадзь Мікалаевіч уключыў і «Паэму расстання», якую прысвяціў памяці Юрыя Гагарына.

«Незвычайная слава, якая дасталася яму, ніколькі не сапсавала гэтага чалавека, — распавядаў Бураўкін, які двойчы сустракаўся з Гагарыным. — Мне ён вельмі падабаўся, мілы, сціплы, вясёлы. Такім я яго помню. Смерць Гагарына, смерць трагічная, стала маім уласным горам. І тады ў душы выспела жаданне напісаць пра гэтага вялікага сына Зямлі...»

*Неадкрытая зорка*
*на халоднае дрэва*
*Упала самлелаю страказой.*
*Па сінім воку неба*
*Самалёт скаціўся слязой...*

І застаецца толькі шкадаваць, што Генадзь Мікалаевіч так і не распавёў, што за любіцельскі чорна-белы фотаздымак захаваўся ў яго хатнім архіве, на адвароце якога алоўкам пазначана: «Гурзуф 1962» і на якім гэтак лёгка пазнаць першага касманаўта Зямлі — па яго знакамітай, сонечнай усмешцы.

Сяргей КАЙКО

# Знайшлі крайняга

**Тыдзень таму мы іранізавалі з дзіўнай непасрэднасці футбольнага кіраўніцтва, якое віламі на вадзе намалявала стратэгію выхаду зборнай Беларусі на вядучыя пазіцыі ў Еўропе. Ужо тады было відавочна, што гэтыя стаханаўскія планы на пяцігодку ўшчэнт разаб'юцца аб бязлітасную рэчаіснасць.**

Так, уласна, і адбылося, але ж такой імклівасці ніхто не чакаў. Атрымалася як у Ільфа і Пятрова. «Панікоўскага б'юць!» — «Як, ужо? Нешта вельмі хутка...»



Фота www.abff.by

Міхаіл Мархель: «страціў» каманду — страціў працу

## Сыход «аднадумцаў»

Не паспеў высахнуць атрамант на той самай рэвалюцыйнай канцэпцыі, а нацыянальная зборная ўжо спляжылася так, што зарагатала ўся футбольная Еўропа.

Нашы гаротныя хлопцы, акрыленыя амбіцыйнымі задачамі, паехалі ў госці да бельгійцаў. Ды адгрэблі ад першага нумара сусветнага рэйтынгу такога выспятку, ад якога вушы гараць дагэтуль. Параза 0:8 — з такім буйным лікам зборная Беларусі не прайгравала ніколі. Нават у тыя часы, калі адэкватна ацэньвала свае сілы і не збіралася штурмаваць Эверэст.

Мы яшчэ абавязкова вернемся да гэтай гратэскнай гісторыі — разгорнута і падрабязна, у бліжэйшым спартыўным дадатку праз тыдзень. А цяпер семафорым пра іншае. Па матывах аглушальнай канфузіі ў бельгійскім Лёвене сістэме рэзка спатрэбілася ахвярная галава. І гэтая галава знайшлася — пасаду галоўнага трэнера зборнай пакінуў Міхаіл Мархель.

Ці сам так вырашыў, ці на дзверы паказаў працадаўца — пытанне другаснае, але цікавае. Навіну пра адстаўку прэс-служба БФФ сфармулявала парытэтна: «Беларуская федэрацыя футбола і галоўны трэнер зборнай Беларусі прынялі ўзаемнае рашэнне аб скасаванні кантракта. Дзякуем Міхаілу Міхайлавічу за супрацоўніцтва і жадаем поспехаў у далейшай кар'еры». І як тут ні прыгадаць, што яшчэ некалькі тыдняў таму ў Доме футбола прынцыпова інакш ставіліся да прафесійных якасцяў МММ, як скарочана прызвычаіліся называць трэнера журналісты. У клятай стратэгіі–2021/2028, якую нам наканавана яшчэ доўга ўзгадваць, яму з асістэнтамі дадзеная на дзіва пахвальная характарыстыка: «Сфарміраваны трэнерскі штаб як калектыў аднадумцаў і спецыялістаў высокай кваліфікацыі».

І ніхто на той момант не ведаў, што трэнераў у зборнай засталося на тры дні. Паводле закону жанру, разам з галоўным настаўнікам каманду ў хуткім часе мусяць пакінуць і яго памочнікі. То-бок паступова сыдзе ўвесь «калектыў аднадумцаў». Нягледзячы нават на тое, што па гарачых слядах, каб месца не пуставала, «выкананне абавязкаў» навесілі на Георгія Кандрацьева — да нядаўніх часоў правую руку галоўнага трэнера.

## МММ не вінаваты

У гэтым месцы, канешне, патрэбна неяк падсумаваць час Міхаіла Мархеля на чале галоўнай каманды краіны. Гэтыя амаль два гады, цягам якіх беларуская зборная не дасягнула аніякіх вяршынь, а збольшага слізгацела юзам пад адхон. Напэўна, вас гэта здзівіць, але зусім не хочацца практыкавацца ў кіслотнай рыторыцы і кідаць у спіну звольненаму брыдкія словы. Нібыта той піяніст, ён трэніраваў гэтак, як умее. Як умее — выбудоўваў сваю творчую лінію, падбіраў гульцоў, імкнуўся амаладзіць склад. Пры гэтым заўсёды паводзіў сябе як ветлівы, інтэлігентны і выхаваны чалавек. Таксама аргумент у памяркоўнай Беларусі, бо некаторыя папярэднікі Мархеля, што праваліліся ў падобнай манеры, паспявалі пры сыходзе яшчэ і пасварыцца з журналістамі ды заўзятарамі, навешаць ярлыкоў на футбалістаў.

Не Мархель вінаваты, што зборная Беларусі на 30-м годзе існавання мае такі занядбаны выгляд. Не ён ставіў гэтым хлопцам удары і тэхніку, не ён зруйнаваў дзіцяча-юнацкі футбол, не ён падсадзіў футбол дарослы на іголку бюджэтнага фінансавання, выбіўшы з падмурка вялікую сілу матывацыі. Гэтую капліцу развалілі да яго — цягам доўгіх гадоў, калі беларускі футбол дэградаваў ва ўнісон з беларускай эканомікай ды іншымі галінамі нашай сацыяльна арыентаванай гаспадаркі.

Вінаваты Мархель хіба што ў тым, што прыняў гэты чэлендж і ўвогуле пагадзіўся ўзысці на галгофу. Не маючы на тое ні дастатковага досведу, ні аўтарытэту, банальна не саспеўшы для працы на такой вышыні. Так у выніку каманду і «страціў», бо гэта толькі юрыдычна МММ звольнілі ў панядзелак. Фактычна, масты былі спаленыя раней, і спаліў іх — выпадкова ці не — паўабаронца Іван Маеўскі. Гулец расійскага «Ротара», каментуючы паразу ад бельгійцаў, словаў не падбіраў. Атрымаўся важкі камень у агарод галоўнага трэнера: «0:8? Гэта рэальныя суадносіны сіл на дадзены момант. Наш узровень і вынік адсутнасці плана на гульню. Напэўна, усё ж такі план трэба мець, калі гуляеш з такімі камандамі. А не проста выходзіць на поле. І ўсё».

## Калі не ён, то хто?

Так, Міхаілу Мархелю не варта было ўпрагацца ў гэты воз, але ж надта прасілі. І гэта яшчэ адзін штрых, які выдатна характарызуе наш шматпакутны футбол. Гэта ж трэба: не стаяць у гаманлівай чарзе трэнеры, каб спакусіцца працай з нацыянальнай зборнай Беларусі. Мякка кажучы, не імкнуцца да гэтай працы. Прыкладна па той жа логіцы, па якой не рвуцца па-сапраўднаму дбайныя гаспадарнікі ўзначаліць безнадзейны калгас у якой-небудзь вёсцы Хацапетаўцы. Гэта амаль як у школе, памятаеце? «Да дошкі пойдзе...» — і замест лесу рук толькі ўвагнутыя ў плечы галовы. Толькі каб не я.

Тады, у чэрвені 2019-га, Мархеля прызначылі менавіта таму, што нікога больш казырнага на прыкмеце проста не было. І быць не магло. Бо што такое — цягнуць гэты хамут? Па-першае, табе абавязкова паставяць неадэкватна высокую спартыўную задачу, выканаць якую магчыма толькі з дапамогай чорнай магіі і розных цудаў. Па-другое, заробак па футбольных мерках будзе невялікі — дзе-дзе, а ў футбольнай федэрацыі эканоміка заўсёды эканомная. Па-трэцяе, пасля прагназаванага правалу, не выцягнуўшы бегемота з балота, ты сыдзеш у беспрацоўе зняслаўлены. Канешне, не з воўчым білетам, аднак з невялікімі шанцамі на прыстойны працяг працоўнай біяграфіі.

Папярэднік Мархеля Ігар Крывушэнка пасля зборнай паўгода сядзеў без справы, пакуль вымушана не з'ехаў у Інданезію — каб трэніраваць хоць дзе. Георгій Кандрацьеў не мог уладкавацца чатырнаццаць месяцаў — і ў выніку прыняў прапанову сціплага «Мінска». Юрый Пунтус, Анатоль Байдачны — у многіх пасля няўдалага вопыту са зборнай здаралася творчае «пахмелле» з наступнай перазагрузкай кар'еры.

Міхаіла Мархеля яно таксама чакае. Калі БФФ не прапануе вярнуцца да звыклай працы з юнацкімі зборнымі, то 55-гадовы МММ рызыкуе надоўга захраснуць на трыбуне ў ролі гледача-спецыяліста. Гэта цана — і футбол яе возьме — за супрацу з камандай, якая ўсё бліжэй да таго, каб вываліцца з першай сотні сусветнага рэйтынгу.

Цяпер, вядома, інтрыгуе, хто наступны пагодзіцца заняць расстрэльную пасаду на чале зборнай Беларусі. Кандрацьева футбольнае грамадства справядліва бачыць часовай фігурай. Больш-менш упэўнена інсайдары называюць прозвішча Вадзіма Скрыпчанкі, і на сёння гэта, бадай, адзіны яўны кандыдат. Але ці адважыцца 45-гадовы спецыяліст на такую няўдзячную місію? Яшчэ ў снежні чыноўнікі федэрацыі прамацвалі яго на гэту тэму — тады Вадзім Віктаравіч ветліва адмовіўся.

Зрэшты, пажывем — пабачым. Зборная яшчэ вельмі не хутка — ажно толькі ў верасні — адновіць удзел у адборачным турніры. А тым часам у парадак дня вярнуўся чэмпіянат краіны.

## Прагнозы збываюцца

Тры туры згуляныя ў вышэйшай лізе, і аглядальнікам-прагназістам ужо можна паглядваць у люстэрка з гонарам. Бо сюжэт у першынстве развіваецца цалкам так, як і прадказвалі. На тройку лідараў грамадская думка яшчэ да старту намінавала «Шахцёр», БАТЭ і мінскае «Дынама». Неяк так яно і атрымліваецца, хіба што брэсцкія дынамаўцы нечакана ўзляцелі. Ну, балюча будзе падаць, бо няма ў заходняй каманды аб'ектыўных чыннікаў, каб на доўгай дыстанцыі пастаянна дамінаваць у турніры. Тая ж перамога ў Гродне была здабытая ледзь-ледзь — у наступны раз так можа ўжо не пашанцаваць.

Зрэшты, давялося папакутаваць і БАТЭ, які дагэтуль прывыкае да новага галоўнага трэнера Віталя Жукоўскага. 3:2 на сваім полі ў гульні з навічком лігі «Гомелем» — гэта яўна звышнармаваныя выдаткі нервовай энергіі. Іншая справа — «Шахцёр», які бульдозерам прайшоўся па «Іслачы». Дзякуючы гэтай чарговай перамозе салігорцы аднаасобна ўзначальваюць табліцу і, мяркуючы па ўсім, з'яўляюцца галоўнымі прэтэндэнтамі на залатыя медалі.

Ну, а першымі кандыдатамі на вылет застаюцца «Спадарожнік» і «Смаргонь». Такі варыянт напачатку сезона таксама катэгарычна прагназаваўся — і ўсё збываецца. Хоць «Смаргоні» пашчасціла набраць першае ачко, то хай пацешыцца. Такіх радасцяў у яе ў гэтым годзе будзе няшмат.

## Чэмпіянат Беларусі

**ТУР 3. 2.04.** НЁМАН (Гродна) — ДЫНАМА (Брэст) — 0:1 (710 гледачоў; Шасцюк, 80).

**3.04.** БАТЭ (Барысаў) — ГОМЕЛЬ — 3:2 (2470; Я.Філіпавіч, 40, Умараў, 52, 54 — Васькоў, 31, Салавей, 89). СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — МІНСК — 0:1 (350; Алісейка, 50). ШАХЦЁР (Салігорск) — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 4:0 (950; Дарбо, 37, 70, Сзоке, 41, Ахмедзі, 54). ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — ВІЦЕБСК — 1:0 (1020; Скітаў, 30 — аўтагол).

**4.04.** ДЫНАМА (Мінск) — СЛУЦК — 1:0 (1391; По, 30). СЛАВІЯ (Мазыр) — СМАРГОНЬ — 1:1 (1153; Тлупаў, 37 — Бараноўскі, 82 — аўтагол). РУХ (Брэст) — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — 0:0 (670).

**ТУР 4. 9.04.** Энергетык-БДУ — Спадарожнік. 10.04. Іслач — Рух, Слуцк — Тарпеда-БелАЗ, Дынама Бр. — Дынама Мн. 11.04. Мінск — БАТЭ, Гомель — Нёман, Славія — Віцебск, Шахцёр — Смаргонь.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 3 | 3 | 0 | 0 | 7-1 | 9 |
| 2. | Дынама Бр. | 3 | 2 | 1 | 0 | 5-0 | 7 |
| 3. | БАТЭ | 3 | 2 | 1 | 0 | 6-2 | 7 |
| 4. | Дынама Мн. | 3 | 2 | 1 | 0 | 4-0 | 7 |
| 5. | Іслач | 3 | 2 | 0 | 1 | 3-4 | 6 |
| 6. | Тарпеда-БелАЗ | 3 | 2 | 0 | 1 | 2-3 | 6 |
| 7. | Энергетык-БДУ | 3 | 1 | 1 | 1 | 4-2 | 4 |
| 8. | Гомель | 3 | 1 | 1 | 1 | 5-4 | 4 |
| 9. | Мінск | 3 | 1 | 1 | 1 | 3-3 | 4 |
| 10. | Рух | 3 | 0 | 3 | 0 | 3-3 | 3 |
| 11. | Нёман | 3 | 0 | 2 | 1 | 1-2 | 2 |
| 12. | Віцебск | 3 | 0 | 2 | 1 | 0-1 | 2 |
| 13. | Славія | 3 | 0 | 1 | 2 | 1-3 | 1 |
| 14. | Смаргонь | 3 | 0 | 1 | 2 | 1-6 | 1 |
| 15. | Слуцк | 3 | 0 | 1 | 2 | 1-5 | 1 |
| 16 | Спадарожнік | 3 | 0 | 0 | 3 | 0-7 | 0 |

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захоча павіншаваць палітвязня паштоўкай ці тэлеграмай або адправіць яму грашовы перавод да свята. Магчыма, хтосьці захоча даслаць у рэдакцыю віншаванне, каб мы яго надрукавалі. У гэтым нумары працягваем расказваць пра вязняў, дні народзіны якіх прыпадаюць на красавік.**

### 12 красавіка

Свой 49-ты дзень народзінаў давядзецца сустракаць **Аляксандру Шандыбу**. Ён фігурант справы аб масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК), распачатай па пад-



зеях у Пінску ў ноч пасля выбараў 9 жніўня. Аляксандр знаходзіўся пад падпіскай аб нявыедзе, але 24 сакавіка яго затрымалі і змясцілі пад варту. Да суда ён утрымліваецца ў СІЗА №6 у Баранавічах. У Аляксандра трое дзяцей.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

### 15 красавіка

Сорак гадоў споўніцца **Андрэю Войнічу** — актывісту «Еўрапейскай Беларусі». Раней ён быў адным з удзельнікаў апазіцыйнага руху «Зубр». За сваю грамадскую дзейнасць, за ўдзел у мірных акцыях пратэсту ён неаднаразова зведаў рэпрэсіі з боку дзеючай улады: ціск, штрафы і адміністрацыйныя арышты.

Андрэй быў затрыманы разам з Ягорам Літвінкам, Анастасіяй Кірык і Паўлам Юхневічам 25



верасня ў межах крымінальнай справы па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса («Удзел у масавых беспарадках»). У кватэру, дзе знаходзіліся актывісты «Еўрапейскай Беларусі», сілавікі — у масках і са зброяй — патрапілі адначасова праз вакно і дзверы. У затрыманых канфіскавалі ўсю тэхніку, сцягі, асабістыя рэчы.

1 кастрычніка Андрэю Войнічу было прад'яўленае абвінавачанне. Ён утрымліваецца ў СІЗА-1 г. Мінска.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарская, 2.

### 17 красавіка

31-шы дзень народзінаў сустрэне за кратамі **Аляксандр Алегавіч Драздоў**. Ён быў затрыманы 30 лістапада ў Брэсце. Супраць яго распачата крымінальная справа за ўдзел у масавых беспарадках 10 жніўня.



Прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэксу («Удзел у масавых беспарадках»).

10 сакавіка ў судзе Маскоўскага раёна Брэста Аляксандру і яшчэ 8 іншым фігурантам гэтай крымінальнай справы вынеслі прысуды. Аляксандр Драздоў атрымаў чатыры з паловай гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.



# «Мужны наш Сцяпан!»

**Сцяпан Латыпаў за кратамі ад 15 верасня. Арбарыст і дырэктар кампаніі «Беларбо», жыхар дома каля «Плошчы Перамен» быў затрыманы ў двары дома амапаўцамі толькі за тое, што ён запытаўся, навошта яны знішчаюць мурал.**



У Сцяпана 11 красавіка — дзень народзінаў. Але апошнім часам лісты да яго сталі затрымліваць і перадаваць толькі асобныя з іх. Напэўна, каб склалася ўражанне, што пра яго ўсе забыліся. Але сотні людзей пішуць Сцяпану. Мы сабралі толькі некаторыя з лістоў.

Рэдакцыя НЧ віншуе Сцяпана Латыпава з днём народзінаў. І верыць у хуткую сустрэчу на волі. А пакуль пачытайце, што пішуць яму знаёмыя і незнаёмыя людзі.

Сцяпан, дарагі, абдымаю вас моцна! Хоць асабіста мы не знаёмыя, але, як быццам знаёмыя)) Такія мужчыны, як вы, — гонар беларусаў. Не ўяўляю, як вам цяжка цяпер, дасылаю флюіды дабра і веры. І дакладна ведаю: хутка ўсё будзе вельмі добра=) Мы з вамі! Дзякуй вам!

**Наталля Максімава**

Дарагі наш чалавек! Мужны наш Сцяпан! Ганаруся тым, што жыву з вамі ў адным горадзе! Я таксама шмат разоў пераглядала той ролік, дзе вы спакойна і ўпэўнена настойваеце на выкананні закона! І як няёмка тым, хто яго парушае! Вы вельмі смелы! І такіх большасць! Сумленных і смелых! Таму што яны — на баку дабра і праўды! І тое, што адбываецца за спінай народа, адбываецца на вачах у Бога!

**Вольга Шкор**

Пішу Вам, а ў думках абдымаю ўсіх сапраўдных беларусаў, якія побач з вамі! Усяго некалькі хвілін відэа, а вы — родны і блізкі! І радасць ад таго, што гонар, годнасць, сумленне, мужнасць — гэта не проста назоўнікі са слоўніка, а сутнасць беларуса. Дзякуй вам за веру і надзею: жыў беларус і будзе жыць!

**Ірына Белавусава**

Я пісала вам некалькі лістоў. На жаль, адказу ні разу не атрымала. Я захапляюся вамі і іншымі такімі ж беларусамі. Вельмі сумна, што краіна пусцее на лепшых: адны з'язджаюць у эміграцыю, іншых ізалююць унутры. Мы верым і спадзяемся, што муры разбурацца. На жаль, не ўсё так проста, але дарогу здужае той, хто ідзе. Іншае страшна ўявіць нават.

Трымайцеся, калі ласка, беражыце сябе, падтрымлівайце калегаў па няшчасці.

Вы, напэўна, чулі, што думка матэрыяльная? Пасыл ужо запушчаны, працэс на шляху.

**Таццяна Сафонава**

Мяне клічуць Вера і я мару пазнаёміцца з вамі асабіста. Хочам з мужам запрасіць вас да нас на лецішча і размаўляць пра добрае ўсе выходныя, шпацыраваць па лесе, абавязкова лазеньку затопім… абдымаю вас моцна, малюся пра здароўе і пра хуткае вызваленне. Дабро перамагае зло!!!

Не было і дня, каб я не ўзгадала пра вас, не падумала, як вашы справы і здароўе.

Я жыву ў раёне Лебядзіны, і ў нас вельмі не хапае зялёныя, дрэў. Кожны дзень, калі выгульваю свайго карлікавага пудзеля, звяртаю ўвагу, што тыя кволыя дрэўцы, якія высаджаныя ў нашым раёне, пашкоджаныя нейкім зялёным ці то мохам, ці то цвіллю. І думаю я, што ёсць такі выдатны, неабыякавы спецыяліст — Сцяпан Латыпаў, які мог бы ратаваць дрэвы і рабіць нашу планету яшчэ выдатнейшай. Але чамусьці, па чыёйсьці злой волі, гэты прафесіянал знаходзіцца ў турме не зразумела за што. Мне вельмі хочацца, каб вы як мага хутчэй вызваліліся, змаглі займацца любімай справай, проста працягваць жыць і будаваць планы. Мне вельмі добра знаёмы ваш двор «Плошча Перамен». Я доўгія гады жыла ў гэтым раёне. Там жылі мае знаёмыя, аднакласнікі, ды і проста ў «Гіпа» хадзіла па пакупкі. Мой сын хадзіў гуляць у футбол і ў Кіеўскім скверы, і на школьным стадыёне. Свет цесны!!! Калі ласка, беражыце сябе!!! Вы ў нашых сэрцах. Няхай Гасподзь Бог дапаможа вам справіцца з усімі выпрабаваннямі і нягодамі. Вы годны чалавек. Дзякуй вашым бацькам, што заклалі ў вас усё лепшае, чалавечае.

**Сцяпанава Марына Мікалаеўна**

Хачу перадаць вам прывітанне ад усёй нашай сям'і. Шмат чаго здарылася і, хутчэй за ўсё, яшчэ здарыцца. Але мы ўсе будзем вельмі старацца дзеля ўсіх вас. Мы вас вельмі чакаем. Хутка вясна, і пасля доўгай зімы дрэвам вельмі патрэбная ваша дапамога і клопат. Мы ўдзячныя вам за тое, што вы зрабілі дзеля сваіх суседзяў, а значыць — і для ўсіх нас. Так шмат цудоўных людзей, аказваецца, жыве зусім побач з намі. Трэба было толькі выйсці на двор

Ведайце, што ў вас дзесьці ёсць сябры. Вы яшчэ не ведаеце, а мы ўжо ёсць.

Дзякуй вам велізарны.

**Віялета Уладзіміраўна Ашмян**

Пішу вам з Італіі. Здавалася б, чаго б нам тут перажываць, бо «нас і тут няйдрэнна кормяць», як казаў персанаж аднаго мульціка, які я любіла глядзець у дзяцінстве і які вы, напэўна, таксама памятаеце. Але немагчыма заставацца ўбаку ад таго, што адбываецца з вамі, нашымі дарагімі, нашымі мужнымі суайчыннікамі. Вельмі хачу, каб вы адчулі часцінку нашай цеплыні. Мы памятаем пра вас, вы не адны!!! Хоць мы і далёка, але ў думках мы з вамі. Пачынаючы з мінулага лета мы жывем у сімбіёзе з тэлефонам, мы жывем навінамі пра тое, што адбываецца на нашай Радзіме. Я нават за мясцовымі навінамі амаль не сачу. Ды і што за імі сачыць? Увесь час адно і тое ж: ужо год як каранцін, але ўсё гэта робіцца цьмяным на фоне беларускіх падзей. А яшчэ гэтыя навіны з палёў нашай Радзімы нас вельмі матывуюць. Мы робім усё, што толькі можам, каб унесці ўклад у нашу агульную справу. Калі-небудзь я напішу пра гэта кнігу. Вы вельмі мужны чалавек, я шчыра і глыбока вамі захапляюся! Вы прыклад для ўсіх нас.

Моцна вас абдымаю.

**Кацярына**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №590

Падпісана да друку 08.04.2021. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.